Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Лім

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 2 (4700) 11 студзеня 2013 г.



4 Наколькі беларуская «Беларуская песня пра Касцюшку»? Даследаванне першакрыніцы.



9 Адкрыць Беларусь. Наноў. Ці змяніліся беларусы за 100 гадоў?




10 Паэзія як паветра. Гутарка з галоўным рэдактарам расійскага паэтычнага часопіса.

## Раждзэственскае пасланне Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі

Узлюбленыя ў Госпадзе архіпастыры, пастыры, манахі і ўсе верныя дзеці Беларускай Праваслаўнай Царквы!

*Раждаство Тваё, Хрысце Божа наш, азарыла свет святлом ісціны...*
Трапар Раждаства Хрыстовага

Сёння нашы сэрцы азораны радасцю аб уцялесненым Сыне Божым. Святло ісціны — Бог наш Іісус Хрыстос — ззяе ўсяму свету праменнямі Каляднай зоркі. Яго ўсхваляюць Сілы Нябесныя, Яму пакланяецца прыгажосць зямлі. Мора ўбачыла і пабегла; Іардан павярнуўся назад (Пс. 113: 3), — такім убачыў прарок лікаванне прыроды, якая сустракае нованароджанае Богадзіця.

Разумеючы гэтае сапраўды сусветнае значэнне Бога-ўцялеснення, мы ў той жа час адчуваем, што яно звернута да кожнага з нас. Ад валхва, носьбіта ўлады і ведаў, да сціплага пастуха — кожны закліканы пачуць Добрую вестку. І гэта таму, што сэрца чалавека — аснова, на якой трымаецца добраўладкаванне свету і з якой, наадварот, пачынаецца яго разбурэнне.

Гасподзь стварыў нас паводле Вобраза Свайго, каб мы былі падобнымі да Яго. Але цуд тварэння чалавека заключаецца ў тым, што Бог дае нам магчымасць самім вызначыцца: жадаем мы ісці да богападабенства ці не. Свабода — гэта найвялікшы дар, але і нялёгкі цяжар для тых, хто не гатовы зразумець яе як умову любові.

Уцялесненне Хрыста Сына Божага — свабоднае дзеянне любячага Бога. І яго сэнс — аднавіць свабоду чалавека ў зваротнай любові.

Евангеліст Лука апавядае, як Святое Сямейства, выйшаўшы з Назарэта для ўдзелу ў перапісе, шукае прытулку ў Віфлееме. І мы бачым за гэтым апісаннем, як Гасподзь шукае месца, каб явіць Сябе. Але ўсе віфлеемскія дамы аказваюцца занятымі.

Што можа быць больш красамоўным? Дамы і пакоі, якія з'яўляюцца вобразамі чалавечай душы, запоўнены. І не так ужо і важна — хто пасяліўся там, якімі думкамі і пачуццямі запоўнены душы, калі ў іх не знаходзіцца месца для Тварца.

Але вось цуд міласэрнасці Божай! Абраўшы Сабе Маці — пакорлівую Дзеву, — Ён не грэбуе быць народжаным у вярцепе, у звычайным загоне для жывёлы. Нават калі род чалавечы не гатовы да ўрачыстай сустрэчы Бога, Ён усё роўна прыйдзе, убраны ў лагоднасць і пакору! «Тайна нарадзіўся Ты ў пячоры, — сведчыць Царква і адразу ж дадае: — але неба пра Цябе ўсім абвясціла» (вялікая вячэрня, трапар, глас 6).

Богаўцялесненне асвячае пячору нашага ўнутранага свету, ствараючы з яе царскія харамы. Як пяецца на святочным богаслужэнні: «Настаў час нарадзіць, і не было нідзе месца для начлегу; але, як харам прыветны, пячора Царыцы была паказана» (трапар шостай гадзіны навячэр'я Раждаства Хрыстовага).

(Заканчэнне на стар. 2.)

# Пачынаецца год з духоўнасці



Фота БелТА

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка віншуе пісьменніка Анатоля Статкевіча-Чабаганава.

**Пяць прэмій Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі «За духоўнае адраджэнне» і дзесяць спецыяльных прэмій Кіраўніка дзяржавы сталіся годнай ацэнкай дзейнасці святароў, педагогаў, супрацоўнікаў дабрачынных арганізацый, аўтарскіх ды працоўных калектываў. Па традыцыі ўручаюцца ўзнагароды ў калядныя дні, асветленыя радасцю, шчырасцю і цеплынёй.**

(Заканчэнне на стар. 2.)

*Пытанне да творцы*

# Як вы святкуеце Каляды?



**Алесь Бадак:**
— На жаль, куцці ў нас няма. Зразумела, садзімся за святочны стол, але чагосьці традыцыйнага (чытай — арыгінальнага) не адбываецца. Для мяне асабіста Каляды звязаныя з успамінамі пра дзяцінства ў вёсцы. Як калядавалі пад вокнамі («Божая маці сына нарадзіла...»), як азіраліся, ці не ідзе настаўнік. 1970-я гады... Можа, той настаўнік і не збіраўся нас чапаць, але дакладна, што мусіў змагацца з «цемрашальствам». Згадваю бабулю, якая вучыла маліцца, правільна хрысціцца, дзякаваць Богу — за ўсё...



**Мікола Мятліцкі:**
— Каляды я лічу для сябе галоўным святам. За сямейным сталом успамінаем продкаў. Падводзім вынікі папярэдняга года — і заўсёды прыходзім да перакanання, што ён быў самы лепшы: год спраўджаных надзей перад ажыццяўленнем спадзеваў наступных. Увогуле, жывём клопатам пра тое, каб наша духоўная спадчына рыхтавала годную будучыню. Ёсць і куцця... Хацелася б, каб наступны год быў тэрапеўтычным. Гэта ж Год Змяі! Укус яе гаючы. Жонка мая якраз Змяя. Хачу, каб у Новым годзе яна нарэшце зразумела, што муж яе — вядучы нацыянальны паэт (*смяецца*), выдатны перакладчык, які пераствары незлічоную колькасць кітайскіх аўтараў. Няхай яе, Змяі, укус-пацалунак натхніць на новыя творчыя дасягненні!



**Юлія Зарэцкая:**
— Святкую пасапраўднаму. Папярэдні пост. Імша ў святым касцёле. Стол — як заведзена продкамі: адпаведны абрус, сена на ім, дванаццаць посных страў. У Новы год, зразумела, кожны спадзяецца на лепшае. Самае лепшае менавіта для яго. Заўсёды загадваю жаданне на год наступны, на працягу ўсяго года пра яго памятаю, перад Новым годам прыгадваю. Няхай здзяйсняюцца ўсе нашы мары!

## Пункцірам

✔ Кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка падпісаў распараджэнне, якім зацвердзіў рашэнне савета спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па сацыяльнай падтрымцы адораных навучэнцаў і студэнтаў. Заахвочана больш як 1600 навучэнцаў, студэнтаў і педагагічных работнікаў, а таксама два навукова-даследчыя і творчыя аб'яднанні навучэнцаў.

✔ У Брэсце стартаваў XXV Міжнародны фестываль класічнай музыкі «Студзеньскія музычныя вечары». З адкрыццём форуму ўдзельнікаў і гасцей павіншаваў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка.

✔ За выдатныя навуковыя вынікі, атрыманыя падчас сумесных даследаванняў, Акадэміі навук Беларусі і Расіі ўручылі прэміі 2012 года. У сферы гуманітарных навук узнагароды атрымалі і прадстаўнікі Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі Аляксандр Цітавец, Сяргей Мілючэнкаў і Галіна Каспяровіч.

✔ Савет міністраў Беларусі зацвердзіў спіс матэрыяльных гісторыка-культурных каштоўнасцей, якія вызвалены ад падатку на нерухомасць (80 аб'ектаў), зямельнага падатку і арэнднай платы за зямельныя ўчасткі (каля 180 аб'ектаў).

✔ Дзень Беларусі прайшоў на буйным культурным і дабрачынным калядным кірмашы ў Санкт-Пецярбургу. У ліку найбольш папулярных сярод прадстаўленай прадукцыі — смалявіцкія валёнкі.

✔ Эмблему культурнай сталіцы Беларусі і дзяржаў СНД 2013 года — Магілёва — упрыгожыла выява гарадской ратушы. Малюнак распрацаваны Кацярынай Табанюхінай.

✔ Беларускі ансамбль «Смаляначка» Смалявіцкага гарадскога Дома культуры ў дні святкавання Старога Новага года прадставіць нацыянальную культуру ў Сардзініі (Італія).

✔ Каля сотні экспанатаў, сярод якіх поўны збор гісторыка-дакументальных хронік «Памяць», будзе прадстаўлена на выстаўцы «Край лясоў і азёр», прымеркаванай да 75-годдзя ўтварэння Віцебскай вобласці. Выстаўка адкрыецца ў музеі беларускага кнігадрукавання — філіяле Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка.

✔ Фестывальны каляндар Мінскай вобласці 2013 года ўключае больш як 20 культурных мерапрыемстваў. Упершыню адбудзецца абласное свята народнай творчасці «Слуцкія паясы».

✔ У Беларусі плануецца адрадзіць прафесійную школу дойлідства, паведаміў намеснік міністра архітэктуры і будаўніцтва Дзмітрый Семянкевіч.

✔ Перспектывы развіцця лічбавага тэлебачання ў Беларусі былі абмеркаваны ўчора падчас прэс-канферэнцыі, што прайшла ў Нацыянальным прэс-цэнтры Беларусі.

✔ На гродзенскіх вуліцах з'явіліся білборды з сацыяльнай рэкламай у падтрымку беларускай мовы.

Падрыхтавала
Таццяна МАСТОЎСКАЯ

# Пачынаецца год з духоўнасці

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.)**

У ліку лаўрэатаў прэміі «За духоўнае адраджэнне» — аўтарскі калектыў архітэктараў-рэстаўратараў, якія распрацавалі праект рэстаўрацыі дварцова-паркавага ансамбля ў Нясвіжы; дырэктар Радашковіцкай школы-інтэрната для дзяцей-сірот і дзяцей, што засталіся без апекі бацькоў, Ігар Дзятлоўскі; ігуменя Свята-Раждзества-Багародзічнага стаўрапігійнага жаночага манастыра ў Гродне Беларускай Праваслаўнай Царквы ігуменя Гаўрыіла; калектыў Гомельскага абласнога дыягнастычнага медыка-генетычнага цэнтра з кансультацыяй «Шлюб і сям'я»; дырэктар рэлігійнай місіі «Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас"» Віцебскай дыяцэзіі Рымска-каталіцкай царквы ў Беларусі Віталь Кульпекша.

На святочную сцэну ўзнімаліся таксама і лаўрэаты спецыяльнай прэміі Кіраўніка дзяржавы, уганараваныя за значныя дасягненні ў розных галінах мастацтва. Трэба заўважыць, што многія работы лаўрэатаў у пэўнай ступені звязаныя з Годам кнігі. І самы, бадай, яркі прыклад — член Саюза пісьменнікаў Беларусі Анатоль Статкевіч-Чабаганаў, аўтар серыі гісторыка-дакументальных кніг «Я — сын Ваш».


*Фота БелТА*

*Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ўручае ўзнагароду кіраўніку групы архітэктурнага аддзела № 1 Праектрэстаўрацыі Святлане Краюшкінай.*

Сярод уганараваных — калектывы Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь і Тэатра-студыі кінаакцёра Нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм» — за яркае сцэнічнае ўвасабленне твораў класікаў беларускай літаратуры Уладзіміра Караткевіча і Кандрата Крапівы; калектыў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі — за значны ўклад у захаванне і папулярызацыю кніжнай спадчыны, а таксама Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы — за вялікую работу па прапагандзе творчасці народнага Песняра. Прэміяй за працу па адраджэнні рамёстваў, абрадаў і народнага мастацтва рэгіёнаў адзначаны Дрыбінскі раённы гісторыка-этнаграфічны музей і народны тэатр гумару, гульні і песні «Хмелеўскія валацугі» (Жабінкаўскі раён). Уганараваны калектыў Музея гісторыі горада Мінска, якому належыць стварэнне экспазіцыі Мастацкай галерэі Міхаіла Савіцкага.

Высокай узнагародай адзначана праца кінарэжысёра-дакументаліста Галіны Адамовіч па стварэнні фільмаў пра майстроў культуры і спорту ды Альбіны Пякуцькі, загадчыка кафедры харавога і вакальнага мастацтва Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў па развіцці беларускай школы акадэмічных харавых спеваў.

**Алеся БАЦЮСЬ**

## Раждзественскае пасланне Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.)**

Любоў Бога, даходзячы да крайняй пакоры, чакае ад чалавека кроку ў адказ. Але, звяртаючыся да сведчання евангеліста Матфея, мы высвятляем, што Раждаство Хрыстова не ўсім прынесла радасць. Рэўнасць і зайздрасць, народжаныя ганарлівасцю, не дазволілі прыняць Добрую вестку цару Іраду. Больш за тое, ён імкнецца зрабіць усё, каб не дапусціць увасаблення Бога ў гістарычную плоць свету, — Ірад загадвае забіць усіх немаўлят, народжаных у Віфлееме.

Чаму ж сэрца чалавека так па-рознаму рэагуе на яўленне Святла, на прыход у свет Творца? У аскетычнай літаратуры сілы нашай душы часам параўноўваюцца з жывёламі. Вол і асёл з Віфлеемскай пячоры, якіх мы бачым на іконах, пакорліва прызналі ў Богадзіцяці свайго Гаспадара. Але мы ведаем таксама пра аспіда і васіліска (гл. Пс. 90: 13), якія жывуць у сэрцы чалавека. Менавіта пра іх у Пісанні гаворыцца: з сэрца выходзяць злыя помыслы, забойствы, пралюбадзействы, блуд, крадзяжы, ілжывыя сведчанні, блюзнерствы (Мф. 15: 19).

Таму, стоячы сёння перад яслямі Хрыста, нам трэба разгледзець рухі ўласнага сэрца. Што ў ім: пакорнасць ці наракание, услаўленне ці прыкрасць, падзяка ці жаданне абразіць бліжняга?

Многія мудрацы спрабавалі аблегчыць чалавеку гэты страшны цяжар выбару, падказваючы і тлумачачы неабходнасць трымацца дабра. Але наша сэрца ведае: сапраўдны выбар заўсёды адбываецца ў адзіноце, і за нас яго не здзейсніць ніхто іншы. Сацыяльны статус не здымае адказнасці за прынятыя рашэнні, роўна як і адсутнасць статусу не апраўдвае нерашучасці і пасіўнасці перад аблічам зла.

Сёлета ва ўсім свеце будзе адзначана 1700-годдзе рашэння, якое сапраўды змяніла ход гісторыі. У 313 годзе імператар Канстанцін выдаў знакаміты Міланскі эдыкт, пасля гэтага пачалося паступовае станаўленне хрысціянства ў якасці дамінуючай рэлігіі Рымскай імперыі. Гэтае рашэнне было прынята не выпадкова: яно ажыццявілася на фоне і пад уздзеяннем пэўных палітычных, эканамічных, грамадскіх абставін. Але Царква ўбачыла, што ўсе грані гэтага рашэння былі асвячоны асабістай вернасцю імператара Хрысту, і менавіта таму праславіла Канстанціна ў ліку святых.

Гады ішлі, і разам з несумненнымі дабротамі, прынесенымі Царкве Міланскім эдыктам, стала відавочна, што ў асяроддзі хрысціян вера пачала паступова астываць. Хрысціянства выбіралі не толькі як шлях уратавання, але і як знак лаяльнасці да ўлад, дзеля доступу да дзяржаўных прывілеяў.

Дарагія браты і сёстры! Кнігу гісторыі пішуць чалавечыя сэрцы. І тое, што адбывалася 1700 гадоў таму, адбываецца і ў нашы дні.

Дзякаваць Богу, у Беларусі добрыя адносіны паміж дзяржавай і Царквой. Мы развіваем супрацоўніцтва, будуючы адносіны на грунце маральных каштоўнасцей. Але сёння важна памятаць, што хрысціянства мае справу не толькі з супольнасцямі людзей: яно звернута да кожнай асобы. Гасподзь чакае ад нас рашэння: ці ўпусцім мы Яго ў наша сэрца, ці яно будзе занята клопатамі веку гэтага. Ці ёсць у нас золата веры, ладан малітвы і смірна пакаяння (гл. Мф. 2: 11), каб дастойна сустрэць Творца?

На гэтыя пытанні кожны адказвае сам. Але сёння хочацца ўсіх заклікаць пакланіцца Хрысту, каб плады Яго любові адчуваліся ў кожным доме, у кожнай сям'і. Вось гэтыя плады: любоў, радасць, мір, доўгацярплівасць, добрасць, міласэрнасць, вера, лагоднасць, устрыманасць (Гал. 5: 22, 23).

Кожны чалавек хоча любіць і быць любімым. Няхай жа гэтыя святыя дні Нараджэння Госпада ў плоці стануць для нас нагодай падзяліцца багаццем нашых душ з бліжнімі. Няхай Віфлеемская зорка пакажа кожнаму з нас шлях да сэрцаў нашых родных і калег, нашых суседзяў, сяброў і ворагаў, бо там, у сэрцы, — Хрыстос Бог наш. Пакінем ранейшыя крыўды і горыч і накіруемся ў будучыню. Бо з намі Бог, Яму належаць і час, і прастора. Дзе Дух Яго любові, там і дом наш.

Яшчэ і яшчэ вітаю вас, дарагія беларусы, якія жывуць за межамі Айчыны, і жадаю вам адчуць у гэтыя святочныя дні адзінства народа Божага, над якім не маюць улады ніякія адлегласці.

Мір вам ад Госпада, дарагія браты і сёстры!

Хрыстос нарадзіўся! — Бог уцялесніўся!
Хрыстос пасярод нас! — І ёсць, і будзе!
Благаславёны, Хто прыходзіць у імя Гасподняе!

# Кіно як жыццё

**Сёння апошні дзень прагляду праграмы дакументальнага кіно на Нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм». Як вядома, у нашай краіне яно адно з найбольш моцных. Галоўны здабытак неігравога кіно — яго фактаграфічная аснова.**

**Ірына ТУЛУПАВА**

Цягам трох дзён — з 9 па 11 студзеня — можна было азнаёміцца з фільмамі мінулага года вытворчасці студыі «Летапіс». У традыцыйнай штогадовай прэзентацыі сёлета ўдзельнічала больш як 20 работ. Сярод іх — стужкі пра выбітных асоб, запамінальныя падзеі, асноўныя вехі з жыцця краіны. Так, фільм «Адвечным шляхам» (аўтар сцэнарыя і рэжысёр Ірына Волах, аператар Сяргей Мілешкін) распавядае пра лёс і творчасць філосафа, паэта, публіцыста Ігната Канчэўскага. Без яго кнігі «Адвечным шляхам», падпісанай псеўданімам Ігнат Абдзіраловіч, немагчыма ўявіць гісторыю беларускай філасофскай думкі.

Пятнаццаціхвілінны варыянт «Вандроўкі пана Кандратовіча» (аўтар сцэнарыя і рэжысёр Яўген Сяцько, аператар Станіслаў Смірноў) прысвечаны беларускаму польскамоўнаму паэту XIX стагоддзя Уладзіславу Сыракомлю (Людвіку Кандратовічу). У карціне стваральнікі прайшліся па мясцінах, апісаных Кандратовічам у яго эсэ «Мінск», «Вандроўкі па маіх былых ваколіцах».

Уладзімір Дашук выступіў аўтарам сцэнарыя і рэжысёрам фільма «Залатое вяселле» (аператары Павел Зубрыцкі, Георгій Каралёнак, Аляксандр Пацееў). Гэта даволі працяглая (для дакументальнага кіно) гісторыя кахання адстаўнога падпалкоўніка-ракетчыка Яўгена Камарова, які з жонкай пражыў паўвека.

Найбольш працяглы па часе (79 хвілін) — фільм «Беларусь. 4 гады вайны» (аўтар сцэнарыя Уладзімір Мароз, рэжысёр Яўген Сяцько, аператар Станіслаў Смірноў). Фільм уяўляе сабой асэнсаванне ваенный кінахронікі.

Прадставілі свае работы таксама Галіна Адамовіч і Віктар Аслюк. Зрэшты, разнастайнасць стыляў і тэм у дакументальным кіно сведчыць: у жыцці адбываюцца зусім не шараговыя падзеі, вартыя ўвасаблення на экране ды грамадскага асэнсавання.

Літабсягі

# Краіна Васількоў і Васілінак

**Зборнік песень для дзяцей і юнацтва «Васільковая краіна» члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Івана Цітаўца быў прэзентаваны ў СШ № 43 Мінска, з калектывам якой паэт сябруе ўжо шмат гадоў. У сустрэчы ўзялі ўдзел сам аўтар, яго сваякі, сябры, вучні і настаўнікі школы.**

**Таццяна АПАЦКАЯ, Алеся ЗЯНЕВІЧ**

У зборнік увайшлі творы, напісаныя разам з І. Лучанком, Э. Зарыцкім, А. Чыркуном, Г. Казловай, А. Безенсон, А. Фёдаравым, М. Слізкім, Г. Сёмінай, У. Гінько і інш. Усяго 60 песень з клавірамі. Да большасці прыкладаюцца пераклады на рускую мову, а да асобных — на нямецкую, англійскую, французскую, польскую, украінскую, эстонскую і г. д.

У творчай спадчыне Івана Васільевіча багата кніг: «Дзіўная старана» (1995), «Сполохи» (1995), «Ёсць любоў у мяне...» (1999), «Квітней, Беларусь» (2006), «Далёкая вясна» (2010), «Вішня белая» (2010), «Неразгаданы круг» (2011).

Песні на словы паэта вылучаюцца дакладным рытмам, простымі сінтаксічнымі канструкцыямі, дасціпнай мовай, блізкімі дзецям вобразамі, сярод якіх персанажы вядомых казак, жывёлы і птушкі. Дзівосны свет, які з маленства захапляў кожнага з нас.

Разнастайныя песні тэматычным зместам і багаццем паэтыкі: піянерскія, навагоднія, для тых, хто захапляецца музыкай і паэзіяй, спартыўныя, для выпускнікоў, пра сяброўства, узаемаадносіны паміж вучнямі, пра мову, армію, герояў вайны, славутых гістарычных асоб, блізкіх і дарагіх людзей, пра адносіны да прыроды.

Іван Цітавец як чалавек жыццярадасны піша песні жартаўлівыя, поўныя бадзёрасці і цяпла. Гэта і прысвячэнні, і балады, і вальсы, і гімны.

Пагодзімся з выказваннем паэта Віктара Гардзея пра І. Цітаўца і яго творчасць: «Не дзіўна, што болей за дзвесце беларускіх музыкантаў, галоўным чынам прафесійныя кампазітары, супрацоўнічаюць з ім, і ўсе гэтыя «до-рэ-мі» не ляжаць у нотных папках, а гучаць па радыё, тэлебачанні, іх выконваюць прафесійныя і самадзейныя артысты, словам, для творчасці паэта-песенніка адкрыты шлях на эстраду, ягоныя песні выйшлі далёка за межы Беларусі».




Арт-лінія

# Пярсцёнкі Альманзора

**У калядныя дні Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага падарыў маленькім гледачам чароўную казку.**

**Ірына ТУЛУПАВА, фота Аляксандра Дзмітрыева**

Зрэшты, спектакль уражвае і дарослых. Казка паводле Тамары Габэ «Чарадзейныя пярсцёнкі Альманзора» прываблівае з першых рухаў і рэплік. Атмасфера таямнічасці зададзеная ўжо ў першай сцэне — яе ствараюць незвычайныя рэчы, колбы і прабіркі на стале, дый у кабінеце мудраца Альманзора (акцёры Аляксандр Вергуноў, народны артыст Беларусі Аляксандр Ткачонак). І ў дзетак адразу ўзнікае прадчуванне сустрэчы з нечым фантастычным і незвычайным.

Да мудраца і яго памочніка Пілюлія (Аляксандр Ждановіч, Дзмітрый Мазура) звяртаецца Януарыя (Эмілія Пранскутэ) — каралева краіны з экзатычнаю назваю Фазанія: уладарцы трэба выдаць замуж дзвюх дачок, адной з якіх не хапае дабрыні (Аўгуста), а другой — розуму (Апрэлія). І вось ужо дарослы глядач пранікаецца даверам да філасофскай асновы казкі, а імкненне зразумець аўтарскую задуму выклікае непадробную цікавасць да падзей на сцэне. Гісторыя пра непахісную веру ў цуд мае просты сюжэт: Альманзор прапануе прынцэсам на выбар два пярсцёнкі: залаты і алавяны. Сквапная і напорыстая Аўгуста (Іна Савянкова, Алена Сцяцэнка), якая марыць атрымаць у спадчыну каралеўства, зразумела, выбірае залаты. Алавяны па душы лятуценнай Апрэліі (Юлія Кадушкевіч, Вераніка Пляшкевіч), менавіта ён і з'яўляецца заручальным і, апынуўшыся ў руках закаханых, дорыць ім тое, чаго нестае абаім. Праз шэраг неверагодных здарэнняў і прыгод (нават з паездкай за мора і барацьбой са злоснымі піратамі) прынцэса і яе суджаны знаходзяць сваё шчасце. Дабро ўзнагароджана, зло пакарана. Маленькія гледачы пляскаюць у далонькі: перамаглі тыя, за каго яны хваляваліся, гісторыя з прыгожымі персанажамі асветленая ўсімі колерамі вясёлкі (сцэнаграфія і касцюмы Алы Сарокінай), аздобленая народнай мудрасцю і дасціпнасцю.

— Я імкнуўся зацікавіць маленькага гледача сродкамі драматычнага тэатра, — падзяліўся творчай задумай рэжысёр-пастаноўшчык Сяргей Кавальчык. — І знарок не называў гэта дзіцячай казкай. У спектаклі прысутнічаюць элементы чарадзейства, і яны чаканыя дзятвой.

Але ёсць і іншыя знаходкі: мудрэц Альманзор узнімаецца на сцэну, прайшоўшы праз усю залу (што ўзмацняе элемент прысутнасці), кожная роля характарная, далікатна перададзеныя адметнасці гаворкі, дарадчыкам чалавека з'яўляецца звычайны флюгер — у сукупнасці аўтарскія і акцёрскія знаходкі спрыяюць сутворчасці падчас прагляду спектакля і ў выніку прыцягваюць гледача ў тэатр.



Повязі

# «Віват талент»

**Дзень, які мусіў стаць канцом свету, стаўся для канцэртнага аркестра духавых і ўдарных інструментаў «Светач» Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў днём перамогі на Міжнародным конкурсе выканальніцкага майстэрства «Віват талент» у Санкт-Пецярбургу.**

**Павел САПОЦЬКА, фота аўтара**

Мерапрыемства прайшло ў межах адной з цэнтральных пераднавагодніх падзей культурнага жыцця паўночнай сталіцы — Пецярбургскіх Калядных Асамблей. Яго арганізатарамі сталі творчы цэнтр «Натхненне» сумесна з камітэтамі па культуры і адукацыі Санкт-Пецярбурга і Ленінградскай вобласці, а таксама Заканадаўчым Сходам Санкт-Пецярбурга. Конкурс сабраў прафесійныя і аматарскія калектывы з розных краін свету. Сярод іх — калектывы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, а таксама спявак Аляксандр Мурашка. Менавіта дзякуючы фінансавай падтрымцы апошняга стаў магчымым удзел беларусаў у прэстыжным музычным конкурсе. Аляксандр Мурашка, вядомы ў Беларусі прафесійны спявак і мецэнат, выканаў некалькі рамансаў у суправаджэнні аркестра «Светач».

У розных намінацыях канцэртны аркестр духавых і ўдарных інструментаў «Светач» (мастацкі кіраўнік Віктар Валатковіч, галоўны дырыжор Аляксандр Фёдараў) заняў першае месца, брас-квінтэт пад кіраўніцтвам Аляксандра Карацеева — другое, капэла беларускіх народных духавых інструментаў «Гуды» пад кіраўніцтвам Ігара Мангушава — трэцяе.

Незвычайна якасны ўзровень, паводле меркавання аўтарытэтнага міжнароднага журы пад старшынствам заслужанага артыста Расіі Аляксандра Шусціна, характэрны для выканання твораў аркестрам «Светач», які аднойчы ўжо ўзыходзіў на музычны алімп на Міжнародным фестывалі духавой музыкі «Сурмы» (Украіна). Дарэчы, на конкурсе выконвалася музыка, заснаваная на беларускім матэрыяле.

Прыемна здзівілі гледачоў юныя беларускія музыкі — выхаванцы прафесара БДУКіМ Аляксандра Карацеева і выкладчыка Дзіцячай школы мастацтваў № 19 г. Мінска Ганны Белан, якая таксама выканала на фартэпіяна некалькі джазавых кампазіцый беларускіх і замежных аўтараў.



*Аркестр «Светач» і Аляксандр Мурашка.*

Абрысы

➤ Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ **21 студзеня** прапануюць адразу дзве святочныя імпрэзы. Так, **а 15-й гадзіне** ў Доме літаратара збяруцца вядомыя пісьменнікі, кампазітары, юныя і прафесійныя артысты, каб павіншаваць **Міколу Чарняўскага** з 70-гадовым юбілеем і 55-годдзем творчай дзейнасці. Крыху пазней — **а 19-й гадзіне** — вас чакае сустрэча з яшчэ адным вядомым творцам-юбілярам — **Андрэем Скарынкіным**. Удзел у ёй возьмуць таксама вядомыя майстры оперы і эстрады, пісьменнікі і кампазітары.

**Алеся БАЦЮСЬ**

➤ Лепшыя моладзевыя праекты мінулага года названы ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. Усяго на конкурс, які праводзіцца з 2009 года, было прадстаўлена 12 праектаў. А пераможцай стала праграма «Казкі з дзяцінства» Яраславы Кіча і Хрысціны Бенедыктовіч (куратар — Наталля Капацэвіч). Лаўрэатам першай ступені названа «Брама мар» творчай лабараторыі «Крытык» Інстытута журналістыкі БДУ. На другім месцы — «Музей Біблії» Цімафея Чарапеннікава (куратар — Н. Капацэвіч). І на трэцім — праект «Лекторый па эксперыментальнай фізіцы» пад кіраўніцтвам Аляксандра Фядотава (куратар — Максім Шундалаў).

**Арцём ВАСІЛЕВІЧ**

➤ Музей сучаснага выяўленчага мастацтва 11 студзеня запрашае ўсіх, каму ўжо споўнілася 7 год, на спектакль «Тата-Пернік» (рэжысёр-пастаноўшчык Галіна Савельева) тэатра лялек «Дом Сонца». Пастаноўка прапануе задумацца над філасофскімі пытаннямі шчырасці добрых спраў, паразважаць пра дрэнныя і добрыя ўчынкі. Тэатр лялек «Дом Сонца» быў заснаваны псіхолагамі ў 2011 годзе і адразу ўзяў за мэту прыдапамозе мастацтва і творчасці дапамагаць людзям у стварэнні гармоніі ўнутры і вакол сябе. Апрача пастановак «Дабрачынны тэатр-студыя "Дом Сонца"» ладзіць майстар-класы, сустрэчы з людзьмі з абмежаванымі магчымасцямі.

**Дзіяна КАРОЛЬ**

➤ Выстаўка работ сяброў фотаклуба «Святло душы» пры духоўна-асветніцкім цэнтры праваслаўнага прыхода іконы Божай Маці «Усіх смуткуючых Радасць» адчыніла дзверы для наведвальнікаў у музеі гісторыі горада Гомеля. Галоўная ідэя выстаўкі — «Імкненне чалавека да прыгожага непазбежна прыводзіць яго да пошуку Божага, бо ўсялякая зямная гармонія святла і фарбаў ёсць толькі адбітак незямной, Божай гармоніі і прыгажосці». Асноўную сваю задачу арганізатары бачаць у тым, каб пры дапамозе мастацкай фатаграфіі абуджаць у душах людзей пачуццё харастава, напаўняць сэрцы святлом. Экспазіцыя выстаўкі складаецца з работ сяброў фотаклуба В. Сухадольскага, У. Чысціка, Л. Пляханавай, В. Садоўскага, С. Іванова і іншых твораў.

**Аляксандра ДВАРЭЦКАЯ**

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Гомельскае абласное аддзяленне СПБ выказваюць глыбокае спачуванне Кадзетавай Валянціне Мікалаеўне ў сувязі са смерцю МУЖА.

# Легендарная постаць

**У беларускай літаратуры не існуе, так бы мовіць, «касцюшкіяны», хаця такія тэндэнцыі назіраліся. Ёсць, напрыклад, інфармацыя пра верш «Генералу Касцюшку ў дзень ягоных імянін у Сяняве», створаны ў 1792 г. Яшчэ пры жыцці героя ўзнікалі і працяглы час бытавалі ў народным асяродку песні, звязаныя з імем Тадэвуша Касцюшкі.**

Анатоль ТРАФІМЧЫК

Беларусы шанавалі памяць пра нацыянальнага героя. У легендах, паданнях, песнях захоўвалі яны светлы ўспамін пра свайго земляка-заступніка: «Касцюшка зваяваў бы свет цэлы, каб паны яго слухаць хацелі, але паны, як паны: гулялі, банкетавалі, Касцюшкі не слухалі, затым і Польшча прапала». «Кажуць, што ў Касцюшкі то быў такі плашч, што кулі яго не прабівалі: аднаго разу маскалі на яго знячэўку напалі, так ён не паспеў таго плашча злажыць, так яго чыста пасеклі і забралі». У народнай творчасці падкрэсліваюцца мудрасць і патрыятызм легендарнай асобы: так, калі Павел I умовою вызвалення Т. Касцюшкі паставіў прынясенне прысягі на вернасць, апошні, папрасіўшы часу падумаць, звярнуўся да сяброў на волі, каб прывезлі яму зямлі з Радзімы, якую ён таемна засыпаў у свае боты, абуў іх і, прыклаўшы руку да сэрца, сказаў: «Клянуся быць да смерці верным той зямлі, на якой стаю», пасля чаго Павел I так расчуліўся, што не толькі вызваліў Т. Касцюшку з няволі, але вярнуў яму яго баявую шаблю, падарыў паліто са свайго пляча і дазволіў выехаць з Расіі, а таксама вызваліў і вярнуў з высылкі ў Сібір многіх яго сяброў.

Нягледзячы на вузкую сацыяльную базу ваенных канфліктаў часоў падзелу Рэчы Паспалітай, што не спрыяла ўдзелу ў іх шырокіх сялянскіх мас, у іх асяродку Касцюшка змог выклікаць давер і гарачую сімпатыю да сябе, якая дарастала да культу, увасобіўшыся ўрэшце ў фальклорныя і аўтарскія творы. Пра гэта яшчэ ў савецкі час казаў славуты даследчык Адам Мальдзіс, звяртаючы ўвагу, што «асабліва многа ананімных вершаў распаўсюджвалася напярэдадні і ў час Чатырохгадовага і Гродзенскага сеймаў, паўстання Т. Касцюшкі».

Ліра-эпічны сказ, умоўна названы даследчыкамі «Беларускай песняй пра Касцюшку», упершыню быў запісаны і апублікаваны паралельна двума збіральнікамі фальклорнага багацця — Паўлам Шэйнам і невядомым, які падпісаўся псеўданімам Пламеньчык, — ва ўсходняй частцы Беларусі (другая палова XIX ст.), а трохі пазней, у 1903 г. — Вячаславам Камінскім у Відзах (Браслаўшчына — Паўночная Беларусь). Гэта цікава і ў нейкім сэнсе знамянальна ўжо само па сабе, бо сведчыць пра этнічнае адзінства вялікай беларускай тэрыторыі: як бачна з песні, насельніцтва нават тых земляў, на якіх практычна не вялося ваенных дзеянняў, усведамляла падзеі паўстання як ім блізкія і ў той жа час, не зважаючы на асіміляцыйную палітыку суседзяў, ясна адрознівала сябе ад палякаў і рускіх — «маскалёў».

Савецкія выданні запісаў песень П. Шэйна, прайшоўшы цэнзурнае сіта, гэтай песні не ўтрымліваюць. Ёсць толькі заўвага, што салдацкія песні на Беларусі з'явіліся і развіваліся ў канцы XVIII — пачатку XIX стст. і мелі ўплыў рускіх салдацкіх песень, бо рэкруты заносілі іх у рэпертуар беларускай вёскі. Арыгінальныя салдацкія песні на тэрыторыі Беларусі, гаворыцца ў выданні «Беларускія народныя песні» 1962 г., «па ідэйнаму зместу блізкія да рускіх песень» (!). Відавочная падагнанасць пад ідэалагічныя патрабаванні: у канцы XVIII ст. рэкруты не маглі заносіць свае песні ў рэпертуар беларускай вёскі, тым больш ідэйна блізкія да рускіх. Усё па той простай прычыне, што першыя рэкруты родам з Беларусі ў расійскім войску з'явіліся толькі пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай (1793), калі на беларускіх землях была ўведзена рэкруцкая павіннасць, і вярталіся яны дадому ў масавым парадку як мінімум праз чвэрць стагоддзя (такі быў тэрмін рэкрутчыны), гэта значыць, калі пачатак XIX ст. застаўся ў гісторыі.

Паводле А. Каўкі, «Беларуская песня пра Касцюшку» друкавалася ў польскай газеце «Дзённік Познаньскі» (1882, № 68), дзе аўтар публікацыі Пламеньчык паведамляў, што яшчэ ў юнацтве, на пачатку 1860-х гг., пачуў гэтую песню ў Лепельскім павеце ад адной вясковай кабеты, але толькі дваццаццю гадамі пазней, зноў адшукаўшы сялянку-співачку, запісаў з яе вуснаў дакладны тэкст. Акрамя А. Каўкі непасрэднае дачыненне да даследавання «Беларускай песні пра Касцюшку» мелі такія выбітныя вучоныя, як А. Мальдзіс і В. Дадзіёмава.

З нядаўняга часу «Дзённік Познаньскі» можна знайсці ў электроннай бібліятэцы (http://www.wbc.poznan.pl), што дазваляе кожнаму скарыстацца першакрыніцай, паводле якой гісторыя запісанай Пламеньчыкам песні аказалася больш багатай і складанай. Ён распавядае: «У № 217 «Wieku» за 1880 г. светлай памяці пан прафесар Аляксандр Тышыньскі паведаміў цікавыя звесткі пра спяванне ў Літве народам песні, верагодна, у беларускай мове пра Касцюшку», — пераказвае Пламеньчык, дадаючы ў зносках наступнае: «Хоць п. Тышыньскі ў згаданым месцы не пазнаёміў грамадскасць з яго песняй пра Касцюшку, аднак звярнуў увагу на той факт, што на той песні пераканаўся ў дакладнай антыпатыі люду да справы Касцюшкі. Не ведаючы гэтай песні, я не маю права аспрэчваць словы шаноўнага прафесара. Што тычыцца маёй песні, то звяртаю ўвагу чытачоў на той факт, што ў ёй антыпатыі да справы Касцюшкі не відаць, а ў апошніх яе радках, якія вельмі прыгожыя і арыгінальныя, аплакваецца ўяўнае сканане героя словамі на дзіва смутнымі і кранальнымі». Як бачым, Пламеньчык падкрэслівае, што ў пачутым ім варыянце «Беларускай песні...» не відаць адчужанасці ад падзей інсурэкцыі. Больш за тое, яны блізкія таму асяродку, дзе нарадзіўся твор, гібель галоўнага героя перажываецца як вялікая трагедыя.

Пламеньчык не змяшчае ноты песні, але апісвае характар яе мелодыі: «Пры тым павінен дадаць, што тон гэтай песні кранальны і мае невыразнае падабенства з тонам маларускіх думаў, а пры спяванні яе кожныя два радкі паўтараюцца па два разы».

Сюжэтна варыянты песень, запісаных П. Шэйнам і Пламеньчыкам, падобныя (браслаўская інтэрпрэтацыя дайшла ва ўсечаным выглядзе — без пачатковай часткі): жаўнер выязджае «Маскву ваёваць», развітваецца з каханай, якая пасля пагібелі героя галосіць па ім. Твор выкананы ў класічных традыцыях. Паэтычнае гучанне яго дасягаецца рознымі сродкамі: танічная рытміка ў звязку з сінтаксічнымі канструкцыямі (інверсіі, паўторы, супрацьпастаўленні, паралелізм: «Ляціць пятух чэраз рэку, / Пяе кукарэку, / Я ня ўвіжу Касцюшэчкі / Ад веку да веку. / Ляціць воран чэраз морэ, / А лятучы крачыць, / А хто ж майго Касцюшэчкі / Магілу аплачыць?») стварае ў песні адпаведны настрой. Выкарыстоўваюцца таксама сімвалізацыя (напрыклад, у шэйнаўскай публікацыі фігуруе «Дунай-рэчанька» як традыцыйны сімвал мяжы, за якой знаходзіцца нязнаёмая зямля), іншасказанне («Вазьмі, маці, пяску жменю, / Пасей на камено. / Як той пясок узыйдзець, / Так Касцюшка з вайны прыдзець») і г. д. Вобраз Тадэвуша Касцюшкі таксама досыць алегарызаваўся, «зархетыпіўся», ператвараўшыся ў вобраз напаўлегендарнага, напаўрэальнага гістарычнага змагара. На карысць гэтай думкі сведчыць разыходжанне з сапраўднымі фактамі яго біяграфіі: Касцюшку


№ 68 — Rocznik XXIV. Czwartek, 23 marca 1882.
DZIENNIK POZNAŃSKI.
Czas odnowić przedpłatę!
POZNAŃ, 23 marca.
Z powodu egzaminów w tutejszych szkołach niepełnych.
Pieśń historyczna o Kościuszce.
Wiersz Deotymy.

не забілі, як падае песня, а ўзялі ў палон, лінія кахання героя — таксама мастацкая выдумка. Такім чынам, можна лічыць, што падзеі паўстання сталі глебай для стварэння песні, а кіраўнік паўстанцаў — прататыпам яе галоўнага героя.

Нягледзячы на адносную і геаграфічную, і культурную блізкасць рэгіёнаў, дзе ў XIX ст. былі запісаныя варыянты песні (Барысаўшчына і Лепельшчына), інтанацыйную і экспрэсіўную тоесасць, яны маюць адно істотнае адрозненне: «у шэйнаўскай публікацыі заўважаецца пэўная сацыяльная і нацыянальная адчужанасць да паўстання як да чыста шляхецкага і польскага» (А. Каўка). Гэта магчыма вытлумачыць большым уплывам падзей паўстання на Лепельшчыне. Думаецца, што некаторыя прадстаўнікі гэтага рэгіёна маглі браць удзел у збройным чыне. У той час як Барысаўшчына аказалася ў стратэгічным тыле расійскіх войскаў — за Мінскам, які паўстанцы (атрад С. Грабоўскага) узяць не наважыліся, рушыўшы на паўднёвы ўсход, да Бабруйска. На паўночным захадзе ж ад Лепеля, на Браслаўшчыне, дзейнічаў атрад славутага кампазітара М. Агінскага, таму і нацыянальны ды сацыяльны аспекты ўспрымання падзей, іх мастацкая інтэрпрэтацыя там маглі быць адрознымі.

Варыянт, занатаваны В. Камінскім на Браслаўшчыне, з нейкіх прычын застаўся без завязкі. Песня пачынаецца з кароткага апісання сутыкнення шляхты і маскалёў ды вынікаў гэтай падзеі. Падобныя радкі прысутнічаюць у публікацыі песні П. Шэйна.

*Ляжаць, ляжаць палячанькі*
*Па тры, па чатыры.*
*Ляжыць, ляжыць пан Касцюшка*
*Аж пад Белым-стокам...*

Але, у адрозненне ад абодвух варыянтаў, пазнейшы запіс мае больш разгорнутую канцоўку са з'едлівай рыторыкай — своеасаблівай высновай адносна падзеі:

*Палячанькі-дварачанькі!*
*Дзе ж вы царства дзелі?*
*У Варшаві, у слаўным месцы*
*На абедзе з'елі.*
*Палячанькі-дварачанькі!*
*Дзе ж ваш розум дзеўся?..*

Саркастычныя інтанацыі твора, думаецца, у дадзеным выпадку сведчаць пра ацэнку той падзеі як пэўнай авантуры. А ўказаная А. Каўкам сацыяльная і нацыянальная адчужанасць у шэйнаўскай публікацыі прасочваецца і ў варыянце, зафіксаваным В. Камінскім. Між тым, на Браслаўшчыне полымя паўстання шугала на ўсю моц, мясцовы люд браў удзел у збройным чыне. Таму верагодна, што такія адценні, як і сама павялічаная да пачатку XX ст. канцоўка песні (пры страце пачатку), узніклі пазней. Такім чынам, дадзеная адчужанасць абумоўлена ў гэтым выпадку часавай адлегласцю, у ходзе якой з розных прычын — найперш ідэалагічнай асіміляцыі і русіфікацыі — паўстанне стала ўспрымацца «тутэйшымі» як польскае.

Перцэпцыя і мастацкая канструкцыя вобраза Касцюшкі ў песнях таксама не тоесная. У лепельскім варыянце трагічны лёс героя выклікае спачуванне, якое ўжо не так відавочна выяўляецца ў запісанай пад Барысавам песні і, бадай, не захоўваецца да пачатку XX ст. у браслаўскім варыянце.

Такім чынам, як паказвае аналіз, з аднаго боку, існаванне «Беларускай песні пра Касцюшку» ў розных рэгіёнах сведчыць пра іх роднаснасць як тэрыторыі аднай народнасці, аднак з іншага боку, адрозненні, разыходжанні ў інтэрпрэтацыях і ўспрыманні апісваемых падзей, а таксама ў канструяванні вобраза галоўнага героя гавораць пра неаднолькавую ступень уздзеяння тых падзей на насельніцтва рэгіёнаў будучай Беларусі. Адметна, што адчужанасць ад гістарычнай постаці Касцюшкі ў беларускім фальклоры ўзрастае з часам: пакрысе давалася ў знакі нацыянальнае развіццё беларусаў у межах Расійскай Імперыі.

# Крок наперад



**Вядомаму пісьменніку Беларусі Алегу Ждану — 75 гадоў. Празаік, драматург, кінасцэнарыст, перакладчык беларускай прозы на рускую мову, працуе цяпер рэдактарам аддзела прозы часопіса «Нёман». У многім сённяшняе аблічча добра вядомага на постсавецкай прасторы выдання фарміруецца дзякуючы яго творчаму густу, яго эстэтычным перакананням. Варта пагартаць празаічныя старонкі часопіса, і многае стане зразумелым і адкрытым у псіхалогіі, мастацкіх памкненнях добра вядомага не толькі ў Беларусі, але і ў Расіі празаіка. І гэта не пустыя словы... Бо і друкавацца пачынаў Алег Аляксеевіч амаль адначасова і ў «Нёмане», і ў маскоўскіх (тады — усесаюзных) часопісах «Юность», «Дружба народов», «Новый мир», «Знамя»...**

Максім ГАЛЫНКА

У літаратуру Алег Ждан (сапраўднае прозвішча — Пушкін, так, Алег Аляксеевіч Пушкін) ішоў са сваёй «мазолістай» біяграфіяй. Дзесяцігодку скончыў у Мсціславе. Закончыў пасля гісторыка-геаграфічны факультэт Магілёўскага педінстытута. І пайшоў працаваць на Карагандзінскі металургічны камбінат. Спярша — слесарам, затым — інжынерам-дыспетчарам. Ішла толькі будоўля гэтага найбуйнейшага прамысловага прадпрыемства. Там было напісана і першае апавяданне, з якім Алег Пушкін пагрукаўся ў дзверы папулярнага ў Казахстане, Сярэдняй Азіі часопіса «Простор». Магчыма, апавяданне і апублікавалі (тым больш што сустрэта яно было прыхільна), але ў хуткім часе аўтар ужо працаваў на Брацкім лесапрамысловым комплексе. І першае апавяданне — «Санька, Туся і брыгадзір» — надрукаваў штотыднёвік «Литературная Россия» ў 1963 годзе. З таго часу літаратар перабраўся ў Мінск. Амаль дзевяць гадоў у яго біяграфіі аддадзена Мінскаму трактарнаму заводу. Фактычна да 35 — у працоўных вытворчых калектывах... Гэта гаворыць пра многае. Жыцця сапраўднага нагледзеўся ўдосталь. Мусіць, гэта і вызначыла асноўную тэму ў прозе Алега Ждана — лёс гараджаніна, чалавека, які працуе, як правіла, на заводзе. Магчыма, у гэтым плане якраз ён і з'яўляецца першапраходцам у беларускай літаратуры, дзесяцігоддзямі вельмі цесна прывязанай да вясковай праблематыкі. Магчыма, тым самым пісьменнік якраз і зрабіў за ўсю нашу літаратуру крок наперад... Каб пераканацца ў гэтым, варта зазірнуць у зборнікі аповесцей і апавяданняў Алега Ждана «У час развітання» (1975), «У гасцях і дома» (1977), «Знаёмы» (1977), «Рысы і аблічча» (1985), «Па абодва бакі прахадной» (1987), «Самастойнае жыццё» (1990)...

Дарэчы, пра Ждана не так і шмат пісала крытыка. У памяці — «Человек производства и литературы» Арнольда Каштанава (глядзі «Нёман» за 1981 год, красавіцкі нумар). Але і гэта — хутчэй выказванні, ацэнкі такога ж калегі-шукальніка, калегі-празаіка Арнольда Каштанава, чым грунтоўны разгляд, крытычны аналіз выбранага Жданам кірунку, размова пра яго выразную спробу сказаць уласнае слова ў літаратуры. Справа, зразумела, не ў крытыцы і не ў крытыках. Не аднаго Ждана яны не заўважылі, абмінулі... Пісьменнік развіваецца, ідзе наперад згодна са сваімі перакананнямі. І ўсё ж, і ўсё ж...

У апошнія гады Алег Аляксеевіч сур'ёзна заняўся распрацоўкай гістарычнай праблематыкі. Напісаў раман пра знакавую асобу ў расійскім рэвалюцыйным руху — Кібальчыча: «Не загине са мной». Некалі ў маскоўскім Палітвыдаце выходзіла дастаткова цікавая серыя «Палымяныя рэвалюцыянеры». Прызнаюся, нават збіраў кнігі з гэткім «брэндам». Між іншым, не так і шмат там заідэалагізаванасці. Мо таму, што пісалі кнігі для гэтай выдавецкай серыі пісьменнікі знакавыя, дастаткова сур'ёзныя. Згадаю хаця б некаторых. Анатоль Гладзілін напісаў раман «Евангелие от Робеспьера». Васіль Аксёнаў — «Любовь к электричеству» (пра Леаніда Красіна), Уладзімір Вайновіч — «Степень доверия» (пра Веру Фігнер). Юрый Трыфанаў — «Нетерпение» (пра Андрэя Жэлябава). А кнігі Ерамея Парнова — пра Шандара Пецёфі, Яна Райніса, Эрнста Тэльмана... Натан Эйдэльман расказаў пра Уладзіміра Раеўскага — «Первый декабрист»... Некалькі дакументальных раманаў для «Палымяных рэвалюцыянераў» напісаў і наш зямляк Анатоль Левандоўскі (нарадзіўся ў Мазыры, на Гомельшчыне). Алегу Ждану замовілі раман пра Кібальчыча. Але серыя па зразумелых прычынах знікла «ў нікуды», і сацыяльная запатрабаванасць стала іншай. А вось раман напісаны, і болей за тое — чытаецца з вялікай цікавасцю. Урывак з рамана надрукаваны пакуль што толькі ў часопісе «Всемирная литература» (2009, № 30). Будзем спадзявацца, што пабачыць свет і асобная кніга. Пісьменнік пісаў хутчэй не пра гераічнага рэвалюцыянера, а пра чалавека, які зрабіў выбар, пра яго маральныя, духоўныя памкненні, пра фундамент, на якім фарміраваўся светапогляд мужнага і па-свойму адказнага сына свайго часу. Асабліву цікавасць выклікае гістарычны раман Алега Ждана «Князь Мсціслаўскі». Стасункі Польшчы і Расіі ў далёкім сярэднявеччы сталі галоўнай тэмай твора. Але ж дакументальнае не самы важкі стрыжань у раскрыцці падзей, лёсу няўмногіх персанажаў рамана. Алег Ждан імкнецца разабрацца ў характарах, паказвае пакуты маральнага плана, чым і прыцягвае ўвагу чытача.

Знакавым творам апошняга часу можна назваць і кароткую аповесць, якую нядаўна надрукаваў «Нёман», — «Геній». Пра мастака, які імкнецца не здрадзіць самому мастацтву, пра тое, ці можа суіснаваць сапраўднае мастацтва ў нармальных стасунках з паўсядзённым жыццём. Здавалася б, няма вялікага канфлікту, няма звышзадачы сацыяльнага ці палітычнага характару. Але ёсць у творы другога кшталту канфлікт — чалавека-творцы і асяроддзя, якое жыве паводле сваіх законаў, надзвычай далёкіх ад мастацтва. І чытаецца ж, трывожыць душу напісанае, прымушае думаць, разважаць, сумнявацца... А ці не гэта галоўны клопат сапраўднай літаратуры? Той літаратуры, якой праз усё сваё жыццё і служыць Алег Ждан — сціплы руплівец, сціплы і настойлівы аратай прыгожага пісьменства...

# Майстар з «Небам у руках»

Ізяслаў КАТЛЯРОЎ

Своеасаблівай прадмовай да паэтычнай кнігі Васіля Макарэвіча «Неба ў руках» сталі яго ж праграмныя радкі:

*Вага лісткка тэлеграмы*
*Не больш міліграма.*
*А носіць нястомна*
*У сёлы і гарады*
*Цэлыя тоны*
*Радасці і бяды.*
*Хачу, каб груз гэткі —*
*Не больш і не менш —*
*Вазіў неўпрыкметку*
*Кожны мой верш.*

Пагадзіцеся, што сказана з той прастатой шчырасці, якой нельга не верыць.

Васіль Макарэвіч дбае пра напоўненасць паэтычнага радка. Здаецца, што не толькі кожнае слова, але і кожны гук ён узважвае чуйнай душой, якая стала «палатай і вагаў, і мер». Клопат усё той жа: «Галоўнае — колькі заважыць і слова маё, і радок». Пры такім ашчадным стаўленні пустых твораў у кнізе няма і быць не можа. Адкрываецца яна прысвячэннем Анатолю Сербантовічу. Я добра памятаю, як у студэнцкія гады мы з ім захапляліся пранікнёнай сутнасцю гэтага верша пра папяровага змея. Нябачная навошчаная нітачка, якая не давала змею знікнуць у перыстых аблоках, здавалася нам яскравым сімвалам паэтычнага майстэрства, якое таксама павінна быць непрыкметным. І цяпер адчуванне афарыстычнасці засталося:

*Мы ўжо тады трымалі*
*Па нітцы з небам сувязь.*

Васіль Макарэвіч — майстар паэтычнага слова. Гукапіс яго вершаў заўсёды адпавядае іх сэнсу. Што ж датычыць рыфмаў, то застаецца толькі дзівіцца вынаходлівасці паэта, якая пераканаўча сцвярджае патаемныя магчымасці мовы. Калісьці жартам, а цяпер усё больш усур'ёз у час тэлефонных размоў з ім пытаюся, калі ён урэшце зоймецца складаннем слоўніка ўласных рыфмаў. Перакананы, што гэта быў бы ўнікальны дапаможнік. Іншая справа, што іх сэнсавая, акцэнтуючая насычанасць вельмі індывідуальная і для выкарыстання кімсьці была б не надта прыдатная. Жарт жартам, а слоўнік можа калі-небудзь і з'явіцца. Прынамсі, сам Васіль Сцяпанавіч не адмаўляецца ад прапановы.




У паэме «Лісты з Юрмалы» Васіль Макарэвіч, гаворачы пра блізкага яму лірычнай публіцыстычнасцю Пімена Панчанку, вельмі натуральна раскрывае і ўласнае стаўленне да паэзіі:

*Строфы, як прасмоленыя шпалы,*
*Больш чым на паўсвета*
*Раскачу.*

І тут жа адчуванне мэты:

*Верш адліць бы*
*Шчыры, паратоўны*
*Так, як адлівалі Вы пра век,*
*Каб душой ачнуўся, апрытомнеў*
*Нават недзе снежны*
*Чалавек!*

Зноў і зноў разгортваю яго новую кнігу «Неба ў руках», якая важка папоўніла серыю «Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі», і чытаю там, дзе разгарнулася:

*Ці бачылі, як сосны*
*Ныраюць у раку*
*Пад жаласнае, млоснае*
*Зязюльчына «ку-ку«?*
*З найлепшае, адборнай*
*Бярвенае сасны*
*Ляжаць на руме бёрны*
*Да самае вясны.*
*Пакуль у іх пад бокам,*
*Як соннае цяля,*
*Салодка не зацмокае,*
*Не засапе зямля.*

З цяжкасцю спыняю цытаванне, бо ўвесь верш напісаны на адным гулкім дыханні. Кожная страфа ёміста цэласная. А гэта сведчанне той нязмушанай натуральнасці, якая даецца толькі талентам.

Наогул Васіль Макарэвіч — паэт прасторавага светаадчування. Многія яго вершы паэмнага характару — і не столькі па сваіх памерах, як па сюжэтнай і паэтычнай змястоўнасці.

Паэт захоплена перадае сваё адчуванне роднасці з тым, што побач. І раптам гэтая замілаванасць пашырае зусім іншую прастору верша:

*Зара плыве ў агні,*
*Хоць праз яе прасветліну*
*Вазьмі і зазірні*
*У далеч апраметную!*

Паэтычны жэст Васіля Макарэвіча заўжды маштабны і пры ўсёй сваёй неверагоднасці пераканаўчы. Ён шкадуе, што «плячом аднесці небасхіл не змог», «не пагасіў і кратэра кадзіла»... Ды і сама назва кнігі — «Неба ў руках» — метафара гэткага ж кшталту. Пры ўсёй сваёй часам экстравагантнай кідкасці яго вобразы вельмі натуральна адчуваюць сябе ў агульнай прасторы вершаў. Паэзію Васіль Макарэвіч знаходзіць у незвычайным спалучэнні самых звычайных слоў:

*Даўгавечны і трывушчы*
*Быў па бацьку дзедаў род.*
*Пасвіў поле, пасвіў пушчу,*
*Не шукаў у рэчцы брод.*

У другім вершы паэт раздае колеры травам, дрэвам, гукам, птушыным спевам, а ў самога «промень-пэндзаль трымціць, заціснуты паміж пальцаў».

Менавіта верш, разгорнуты ў адзіную метафару, — паэтычная адметнасць Васіля Макарэвіча. Прачытайце, прынамсі, яго «Літасці не выпрасіць у лёсу», які заканчваецца нечакана:

*Зноў чмялі басяць, як і басілі,*
*Вербы цэдзяць цені на ваду!..*
*Выйшаў я да іх з-за небасхілу*
*І за небасхіл адсюль пайду.*

Цытую адно, а ў думках паўтараю папярэднія афарыстычныя радкі з гэтага ж верша: «Стома ўсяго не забірала, / Дол ці забярэ мяне ўсяго».

«Неба ў руках» — не чарговы зборнік паэзіі, а кніга выбраных твораў. Пазнаю ў ёй шмат даўно знаёмых вершаў, якія не толькі вытрымалі выпрабаванне часам, але і ўмацаваліся ім. Тэматычна кніга падзелена на раздзелы «Работа», «Спадчына», «Матчыны рукі», «Мой алмаз», «Паэмы». Гэта акрамя першага, які даў назву кнізе. Але падзел вельмі ўмоўны. Зборнік чытаецца цэласна, а ў кожнай тэме — шмат сумежных, бо размова ідзе пра сапраўдныя вершы. Між іншым, як я ўжо зазначыў, некаторыя з іх успрымаюцца як паэмы. Можна прыгадаць «Смерць лесавіка», «Сын», «Партрэт хлеба», «Сяло Белае»... Ды і сам паэт выяўляе баладны характар той жа паэмы «Хатынь». Своеасаблівай звышжанравасцю вызначаюцца «Ода маці», «Рэальная фантазія». Не, пералічальна пра паэмы Васіля Макарэвіча гаварыць нельга. Вось і гэтая, якую назваў, уражвае яскравай разняволенасцю зместу і рытму. Пры ўсёй яе публіцыстычнасці аўтарскае «я» застаецца акцэнтавана выразным. А паэмы-прысвячэнні Максіму Танку («Кругі»), Пімену Панчанку («Лісты з Юрмалы»), Еўдакіі Лось («Паэма памяці»), Дастаеўскаму («Дастаеўскі»), алімпійскаму чэмпіёну Алегу Караваеву («Трэцяя спроба») толькі пацвярджаюць вольнае паэтычнае дыханне сапраўднага майстра.

## Мікола ЧАРНЯЎСКІ



# Шпалы

*Мяняюць на пуцях трамвайных шпалы.*
*Не з дрэва ўжо — бетонныя кладуць,*
*Каб палатно, абноўленае дбала,*
*Не мог і танк знянацку скалупнуць.*

*Гляджу на шпалы, што ляжаць наўкола*
*Разбітага рамонтам палатна,*
*І ў памяці ўсплыла дарога ў школу,*
*Што дзесьці не ў смузе,*
*А зблізь відна.*

*Дарогай гэтай мне вузкакалейка*
*Не год, не два, як помніцца, была.*
*І ў дождж, і ў снег,*
*Стальной зіхоткай змейкай*
*Пятляючы ў палях, штодня вяла.*

*Зірнуўшы матавозу ў хвост, бывала,*
*Каб на другі хаця паспець бы ўрок,*
*Я ўслед за ім*
*«Лічыў» нястомна шпалы —*
*Трынаццаць вёрст адмерваў*
*крок у крок.*

*Раз-два, раз-два!*
*Трэцца ў пыл, шуршыць жарства.*
*Першы ўчастак, ён кароткі —*
*Да бліжэйшай павароткі.*
*Ад яе ўжо, —*
*Добра знаю, —*
*Пойдзе каляя скразная.*

*Да Вуглоў спярша прыб'ецца —*
*Сем ды з гакам набярэцца.*
*Да Хімоў — яшчэ чатыры:*
*Ногі —*
*Мой лічыльнік шчыры.*
*Беліцк высь падпёр трубой.*
*Ад Хімоў — падаць рукой!*
*Там,*
*Ля школьнага парога,*
*Скіне стому з плеч дарога.*
*Раз-два,*
*Раз-два!..*

*Акрылены ў газеце ўдачай першай,*
*З красой сам-насам,*
*З выссю жаўрукоў,*
*Радкі, як шпалы, браў*
*у строфы вершаў,*
*Звярацъ вучыўся рытміку радкоў.*

*Я радаваўся, стоме не здаваўся.*
*Ад шпалаў збітых пырскала труха.*
*Бывала, з рытму нехаця збіваўся —*
*Парыўны вецер падганяў-штурхаў.*

*Вілася стужка палатна стальная,*
*Бліжэла школа, а пагляд мутнеў.*
*Хто не хадзіў па шпалах,*
*Той не знае:*
*Хада па іх —*
*Не забаўка, о не!*

*Хадзіць па іх — таксама трэба ўменне,*
*Як шлях да школы,*
*Курс асіліць свой,*
*Каб не падбіцца, бы на тых каменнях,*
*Нагамі думаць, як і галавой.*

*Раз-два,*
*Раз-два!*
*І трава ўжо —*
*Як жарства!*
*І да шпалаў*
*Ад знямогі*
*Прыліпаюць быццам*
*Ногі.*
*Хлеб,*
*Што цягне ў сумку лезці,*
*Ці пазней,*
*Ці зараз з'есці?*
*Раз… два…*
*Раз… два…*

*А ўлетку, як і брат, рамонтнік*
*сталы,*
*Рукаўся з кіркай.*
*З братам заадно*
*Вучыўся «сонца заганяць пад шпалы»,*
*Хоць і няўмела, штопаць палатно.*

*Бо ведаў я: не толькі матавозу,*
*І мне па ім «кірзамі» грукацець,*
*Трываць завей і маразоў пагрозу,*
*Ад ліўняў мокнуць,*
*Ад спякоты — млець…*

*Мяняюць шпалы мінскія пуцейцы.*
*Трамвай чакае — звыклы ўзяць разгон.*
*Па іх, як колісь па вузкакалейцы,*
*Мне не прайсці,*
*Адстаўшы ад яго.*

*Мяняюць шпалы…*
*Рэйкі хлопцы сцелюць…*
*Трамвай зноў праляскоча, празвініць,*
*І толькі леты,*
*Што збуцвець паспелі,*
*Як шпалы, нам ужо не замяніць…*

*Эх, зноў вярнуцца б*
*у маленства далеч!..*
*Ды час усё спустошыў як знарок:*
*Даўно вузкакалейку разабралі,*
*Званок не кліча школьнікаў на ўрок.*

*Гуляе па мястэчку скрухі вецер.*
*Ні тых алей, што з хлопцамі садзіў.*
*Хто высек іх,*
*Хто вокны зарашэціў*
*Дамоў і крам, цяпер пустых на здзіў?..*

*Шасцяць гады лістотаю апалай.*
*Заплюшчу вочы — усплыве прасцяг.*
*Здаецца мне:*
*Я зноў іду па шпалах,*
*Ды спатыкаюся, не патрапляю ўдала,*
*І ўжо не ў школу,*
*А ў зваротны шлях…*
*Раз-два,*
*Раз-два… тры…*


Фота Кастуся Дробава

## Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ



* * *

*Столькі вершаў не напісаў,*
*Столькі думак не перадумаў!..*
*Век ляціць, як пусты састаў,*
*Паміж звадак, тугі і тлуму.*
*Век, здаецца, маршрут згубіў*
*І праз прыцемкі шлях шукае.*
*А залева вакол шугае*
*І свінчаткаю меціць лбы.*
*Азірнуцца бы, пашукаць,*
*Нібы свежага лусту хлеба,*
*Светлай мары святой пячаць*
*Ды высокае наша неба.*
*Ды гаючай вады глыток*
*Пракаўтнуць перад новым крокам…*
*Ёсць Радзіма і ёсць выток,*
*І вясна будзіць дрэвы сокам.*

# Такі народ

Наследаванне У. Караткевічу

*Я начытаўся старых балад!..*
*А калі паглядзеў вакол,*
*Убачыў, як узыходзіць зара*
*Над любай маёй ракой.*
*І ўбачыў свой родны прыдзвінскі край,*
*Горды, святы, жывы,*
*І вечар вясновы, і птушак грай,*
*І сцежку сярод травы.*
*Край мой рамонкавы добрых людзей,*
*Казак, легенд сівых, —*
*Востраў свяшчэнны маіх надзей,*
*Думак і мараў маіх.*
*Мы тут жывём, мы такі народ —*
*Нікому не робім зла,*
*Кідаем зерне ў зямлю штогод,*
*Толькі б яна жыла!*
*Нам хопіць легендаў, нам хопіць мар,*
*Песень, балад, карцін,*
*І перад намі заўжды абшар*
*Нашых любых мясцін.*
*І перад тым, як надыдзе дзень,*
*Думкі ізноў сяялю,*
*Што паўтаруся ў вачах людзей,*
*Тых, каго я люблю.*

# Змітрок Бядуля

*Калі ты адчуў, што пасланы сюды*
*Сівымі прарокамі ў край верасовы,*
*Каб славу надаць беларускаму слову*
*І лёс з гэтым словам дзяліць назаўжды?*
*Душою дыханне адвечнае чуць,*
*Якое спрыяла яму нарадзіцца*
*У песнях, якія плылі па Радзіме,*
*Якія начлежнікі ў полі пяюць.*
*Я веру, што слова не пойдзе на звод,*
*Якія б над краем вятры ні падзьмулі,*
*Бо даў яму лёс беларускі народ,*
*Якому служылі Вы, дзядзька Бядуля.*

* * *

*Каторы раз ізноў параніў*
*Сваёй пакутаю душу!..*
*Санет забітаму каханню*
*Я ў ціхай роспачы пішу.*
*Гады ўздымаліся, як хвалі.*
*Палаў іх трапяткі агонь,*
*А мы каханне забівалі,*
*Не спасцігаючы яго.*
*Якая ўсё-такі прычына,*
*Каб забіваць яго, была?..*
*Яно, як тая аблачына,*
*Што ў небе ціха паплыла.*
*Ды ўсё ж не будзе мной забыта*
*І адгукнецца зноў праз сон…*
*Яно, напэўна, не забіта,*
*Яно жыве праз кола дзён.*

## Лёля БАГДАНОВІЧ



# Першая завіруха

*Сыпле снег беспераста нку —*
*Паглядзі, паслухай.*
*Ладзіць з вечара да ранку*
*Скокі завіруха.*
*Белы сад і двор бялюткі,*
*Дах у белай шапцы,*
*А яна другія суткі*
*Скача свае танцы.*
*Да зімы ўжо недалёка —*
*Лісце ўсё зляцела.*
*Рады мы бялюткім скокам*
*І абноўцы белай…*

# Край бяроз і журавін

*Мая родная старонка —*
*Край бяроз і журавін.*
*Пад акном каліны гронка,*
*Жураўлёў у небе клін.*
*Водар ліпы і суніцаў*
*Ды вясёлкавы масток,*
*Сполах летняй навальніцы,*
*Павуцінкі валасок.*
*Васількі у полі жытнім,*
*У бары — баравікі,*
*Ранак, сонейкам спавіты.*
*Месяц з вудай ля ракі.*
*Не хачу нікуды ехаць —*
*Тут мой прадзед жыў і дзед.*
*Дамавік з дзіравым мехам*
*Бег за імі след у след.*
*Мора казак, песень, баек*
*Нарадзіла тут зямля.*
*Ганаруся родным краем,*
*Мова матчына — мая!*

# Карункі ўспамінаў

*Схаваліся зоркі за хмары,*
*І месяц прылёг адпачыць.*
*Згубіліся ў прыцемках мары —*
*Не ведаю, як буду жыць…*
*А ці ж не была паслухмянай?*
*Не бачыла казачных сноў?*
*Усмешкай вітаючы ранак,*
*Збірала пад стрэшкай сяброў.*
*Дзівілася першым пралескам,*
*Карункам на вішнях старых,*
*Пяшчотным матульчыным песням,*
*Што цешылі ў смутку мой слых.*
*За хмары схаваліся зоркі,*
*Каліна згубіла лісток.*
*І вецер да самага золку*
*Цалуе матульчын слядок…*

Яўген ПЯШЧАНСКІ

# Іграй, іграй дудачка



## Апавяданне

Першы раз я сустрэў яе ў полі. Яна ішла вузенькай сцяжынкай, па грудзі схаваная жытам, у светлай вопратцы, з рэдкімі блакітнымі пырскамі, быццам валошкі, раскіданымі па полі. Ішла асцярожна, чагосьці баючыся і слізгаючыся расцятымі пальцамі па спелым калоссі.

Калі мы апынуліся зусім блізка, дзяўчынка спынілася, стала бокам і сышла са сцяжынкі, уступаючы мне дарогу.

— Праходзь, давай, праходзь, — сказаў я. — Раса ўжо, замочыш ногі, — і сам ступіў убок.

— Не, ідзі ты, — яна нясмела запярэчыла і выпрасталася, падабралася.

Дзяўчынка была худзенькая. Белыя, як пена, валасы лёгкімі завіткамі звісалі на тонкую шыю, кучараваліся на скронях пушыстай грыўкай, ападалі да вачэй.

На бледным тварыку выразна выступалі вяснушкі. Шчыльна сціснуўшы вусны, яна глядзела кудысьці паўзверх жыта ў вячэрнюю зеляніну неба.

Дзяўчынка пайшла, а я ўсё думаў пра яе. Успамінаў і ўспамінаў яе маленькі хваравіты твар, цёмную ямку пад горлам і гэты позірк цераз жытнёвае поле. Мінула тры дні, і я зноў убачыў яе. Яна сядзела ў атаве канюшыны на беразе рачулкі, абхапіўшы калені сплеценымі пальцамі, усё ў той жа светлай вопратцы і чырвоных чаравічках. Сядзела і задуменна глядзела на зарэчныя лугі.

— Дзень добры, — нягучна прывітаўся я.

— Добры дзень, — ціха адазвалася дзяўчынка.

— Ты, напэўна, пазнала мяне. Мы ўжо сустракаліся.

Дзяўчынка зірнула на мяне няўцямна.

— Так, так, вечарам, неяк у полі, — напомніў я. — Ты ішла кудысь, а я — насустрач.

— Ага, пазнала, — узрадавалася яна. — Я прыезджая. Мы жывём непадалёк. Тут, каля чыгункі, наш дом. Мы пераехалі з другой вёскі, адсюль кіламетраў дзесяць будзе, Любачы. Бацька — чыгуначнік, таму яго сюды брыгадзірам прызначылі. Вось мы і пасяліліся ў станцыйнай кватэры, — яна паказала на дашчаты дом каля чыгункі.

— А я вось з гэтай вёскі, — паказаў я на хаты ў нізіне.

— Хораша тут у вас — і вёска вунь якая, уся ў чаромхах, і рэчка невялікая, поле...

Даверліва і жвава бліснулі яе вочы. Дзяўчынка з цікаўнасцю паглядзела на мяне.

— Як цябе завуць?

— А навошта?

— Ну, дзеля знаёмства, мала ці што. Людзям жа трэба знаёміцца...

— Ага, трэба. Ніна мяне завуць.

Я прысеў побач. Ніна адсунулася, абаперлася адной рукой аб зямлю, а другой абрывала махровыя галоўкі канюшыны і раскладвала вянцамі перад сабой.

— Вось колькі ні заўважаю, ты ўсё адна. Хіба мала ў вёсцы хлопчыкаў ці дзяўчынак?

— Я не ведаю, з кім гуляць. І як гуляць — не ведаю, — Ніна зірнула на мяне, нібыта бліснула, з болем у вачах.

— Не ведаю, з кім гуляць, — паўтарыла яна.

Гнуткія пальцы міжволі перабіралі кветачкі канюшыны, на празрыстай скроні напружана пульсавала блакітная жылка.

— Я толькі прыехала сюды і зусім нікога не ведаю. Можа, далей, калі абжывуся, тады з кімнебудзь і пазнаёмлюся. А цяпер вось адна гуляю, сама з сабой, — ціха прамовіла Ніна, зірнуўшы на свой дом. І зноў змоўкла, шукаючы патрэбныя словы. Я заўважыў, як, уздрыгваючы паўкружжам, выгнулася яе левае брыво, бязгучна варухнуліся вусны. Ніна глядзела на мяне, потым даверліва сказала, быццам апраўдваючыся:

— Я доўга ў горадзе жыла, у бальніцы. У мяне няма сяброўак.

— Смешная ты нейкая. І гаворыш пра сяброўак, пра дзяцей, а сама ўсё далей ад іх, далей...

— А калі мне не падабаецца з імі?! — ускрыкнула Ніна. — Толькі ведаюць, што шкадуюць. Я не хачу, каб шкадавалі, — Ніна раптоўна змоўкла, спалохана закрыла далонню рот.

— Нічога, гавары як хочаш, — супакоіў я.

— Не, нельга так гучна. Цяпер нельга.

Над паўфіялетавай канюшынай, паспелым жытам, шэрымі дахамі вясковых хат нетаропка і мякка апусціўся цёплы вечар. Сонца патанула за ружовым бардзюрам далёкага бугорыстага лесу. З яроў і гулкіх лагчын на поле паціху напаўзаў дымчаты змрок.

Востра запахла палыном. У жыце азартна білі перапёлкі, дзесьці на блізкім лузе жаночы голас зазыўна клікаў карову. «Бум-бум», — глуха звякала бразготка, недалёка пасвіўся стрыножаны конь. І ў гэтую музыку летняга вечара, з-за туману, з-за ракі непрыкметна ўплятаўся, клікаў кагосьці гук адзінокай, быццам згубленай у лугах, дудачкі.

Ніна ўздрыгнула, стала на калені:

— Што гэта? — спыталася яна. І прашаптала: — Ціха! Дудачка зайграла. Яна заўсёды іграе, і я прыходжу яе слухаць.

Гук дудкі, такі забыты і непрывычны, паціху нарастаў. Яе напеўныя пералівы, здавалася, калыхаліся ў паветры і плылі ад гэтых парных лугоў, ад рэчкі, якая журчыць у сваіх пясчаных берагах, ад высокага неба. Дудачка праспявала пра водар свежай раллі, гоман бяроз, пра начное маўчанне палёў і яшчэ шмат пра што, ад чаго захацелася, раскінуўшы рукі, дакрануцца да зямлі і беражліва пацалаваць яе.

Дудка пагуляла над зялёнымі лугамі, паспявала і падалася далей. Усё навокал заціхла. Іншыя гукі, якія напаўнялі вечар, нібыта спалі, прыглухлі, не перашкаджалі ёй.

Ніна слухала, узняўшы рукі і трымаючы іх уверсе, лёгкія, трапяткія. Яна быццам хацела ўзяць нешта вельмі крохкае і каштоўнае, дарагое ёй. Я баяўся парушыць гэты стан дзяўчынкі, баяўся, што яна проста ўпадзе, калі раптам абарвецца спеў дудачкі. А гук інструмента заціхаў, павольна плыў з прасторы. Чым далей ён плыў, тым больш напружаным рабіўся твар Ніны. Дудачка вывела ледзь чутна апошнюю ноту і заціхла, патанула ў змроку. Яшчэ нейкі час пасля таго, як змоўкла дудачка, Ніна стаяла ў забыцці, пад уплывам зніклых гукаў. Пасля яна апусціла рукі, заплюшчыла вочы.

— Пойдзем, Ніна, ужо позна, — сказаў я.

Ніна мяне не чула, думала пра штосьці сваё. Я асцярожна спытаў:

— Табе дрэнна?

Толькі цяпер, здавалася, яна ачулася. Кончыкамі пальцаў выцерла вочы, паглядзела на мяне ясна і здзіўлена:

— Не! Наадварот, мне хораша. Толькі ўсё гэта незразумела.

— Што незразумела?

— Ды ўсё: і вечар, і неба зялёнае, і музыка такая...

— А хто іграў?

— Не ведаю, ні разу не бачыла, толькі слухаю кожны вечар. Мама гаворыць, што дзядуля нейкі...

У гэты момант з крайняга агарода пачуўся жаночы крык:

— Ніначка, пара дамоў!

— Ну, я пайду, — сказала Ніна. — Мама кліча.

Ля плота яна спынілася і з высокага пагорка зноў зірнула за раку:

— Не, не відаць музыканта. Цёмна ўжо.

Ніна пайшла, а мне штосьці карцела, я думаў пра яе... З гэтага вечара я страціў спакой. Думаў толькі пра Ніну. Дзе б я ні быў, калі б яе ні бачыў, — ці то ў школе, ці так, дзе-небудзь, мае думкі і пачуцці былі побач з Нінай. Але ж яна пра гэта не ведала...

Вось так з сёмага класа я закахаўся. Некалькі вечароў прыходзіў да рэчкі і заўжды знаходзіў там Ніну, заўжды ў адзін і той жа час, калі апускалася за далёкі лес сонца і аблокі мякка свяціліся яснымі кветкамі.

За гэтыя вечары мы вельмі пасябравалі. Мне здавалася, што я быў адзіным чалавекам, якому Ніна давярала свае думкі. Мы хадзілі ў канюшыне сярод незабудак, збіралі фіялетавыя геранькі і парасоны валяр'яны або сядзелі ля самай вады і сачылі за ластаўкамі-беражанкамі. Выцягнуўшы вострыя крылы, яны шлёпаліся грудзьмі ў раку, а потым у пырсках весела і імкліва ўзнімаліся ў вышыню.

— Шчаслівыя гэтыя ластаўкі, — неяк сказала Ніна. — Лётаюць і столькі бачаць. Цікава, куды вядуць дарогі? Што за рэчкай? А за лесам што? Вось курыца. Птушка, а не лётае...

Мы гаворым пра рознае: пра кветкі, птушак, далёкія краіны, кніжкі і пра многае іншае, пра што яна мяне пытае. Але такія размовы звычайна пачынаюцца пасля таго, як сплывае гук дудачкі. І заканчваюцца яны з прыходам Нінінай маці. Аднойчы мы пайшлі на бераг, прасядзелі да прыцемкаў і дудачкі не пачулі. Без яе чагосьці не хапала. І звычайныя гукі былі ўжо не тыя: рыпне калодзежны журавель — мы азіраемся. Стукне жанчына пранікам па мокрым ходніку — уздрыгваем, гук па рацэ такі, быццам стрэліў хто. Сумна без дудачкі. Мы прыслухоўваліся і амаль увесь вечар маўчалі. Так і пайшлі дамоў, нібыта страцілі нешта дарагое, пайшлі раней звычайнага. Не іграла дудачка на другі і на трэці дзень...

Цяпер мы і на самай справе штосьці згубілі — у мяне валілася ўсё з рук, я не мог нічога рабіць. Ніна стала маўклівай, няўважлівай. Хадзіла па беразе, раз-пораз нецярпліва пазірала на рэчку, а потым рабілася абыякавай і назірала за мітуслівымі стракозамі, якія лёталі над вадой. Змянілася яна і знешне — неяк знікла.

У адзін з вечароў Ніна на луг не прыйшла. Без яе зусім невыносна стала ля ракі. Прачакаў з гадзіну і направіўся дамоў да Ніны. Яна ляжала ў ложку. Маці сядзела побач і прыкладвала да яе гарачага лба мокры ручнік. Ля акна здымала халат сельская фельчарка.

— Адпраўляйце дзіця ў бальніцу, Кацярына Іванаўна, — гаварыла яна. — Рэцыдыў. Пакуль стаўце халодныя кампрэсы.

Фельчарка пайшла. Кацярына Іванаўна паказала мне на крэсла.

— Дрэнна ёй, — сказала яна. — Вунь якая гарачка. Усё пра дудачку гаворыць, пастушка нейкага кліча. Навыдумлялі вы там з ёю...

Ніна перарывіста стагнала. Адхіляючы руку маці, абаперлася на локаць, і, збіваючыся, таропка загаварыла:

— Хлопчык, іграй яшчэ... Іграй, хлопчык! Ды іграй жа!.. — яна заціхла, упала ў ложак. Маці асцярожна, разам з падушкай, прыўзняла ўзмакрэлую галаву Ніны, паднесла да запеклых вуснаў шклянку з вадой. Ніна сілком глынула, расплюшчыла вочы:

— Гэта хто іграў?

— Хлопчык, дачушка. Пастушок твой.

— Дзе ж ён?

— Пайшоў, але хутка вернецца, іграць табе будзе.

— Будзе? Я пачакаю яго, — Ніна прасвятлела, усміхнулася, апусцілася на падушку і забылася.

— Вось так з учарашняга вечара, — сумна сказала Кацярына Іванаўна. — Усё пастушка кліча... Фантазёрка яна вялікая. Штонебудзь ды прыдумляе.

Кацярына Іванаўна нахілілася да грудзей дачкі, паслухала дыханне:

— Гэта ў яе абвастрэнне. Шэсць гадоў пластом ляжала. У яе поліяміэліт быў. Дактары гаварылі, што з узростам пройдзе. Не праходзіць. Як расхвалюецца, дык і зляжа...

Я слухаў гэтыя словы, і мне было балюча, таму што нічым не мог дапамагчы Ніне.

— А што калі... Што калі пашукаць гэтага хлопчыка?

— А дзе, як?

Я развітаўся з Кацярынай Іванаўнай і адправіўся на раку, знайшоў лодку і пераплыў на другі бераг. Доўга ішоў у тым напрамку, адкуль раней чуўся спеў дудачкі. У нізіне, за вербалозам, на заліўных пожнях я знайшоў вытаптаныя каровамі выпасы, пастушыныя кастрышчы. Але ні статка, ні пастуха ўжо не было. Сустрэчная жанчына сказала, што тут кароў пасвіць стары Цімох. Ён і дудзеў у дудкі, якія сам майструе. Цяпер пагнаў статак у вёску.

Я пайшоў па пыльным прасёлку. Пастуха дагнаў ля фермы. Высокі, масласты, з бурым ад загару тварам і барадой у два кліны, ён нягучным свістам падганяў карову, якая адбілася ад статка. Тоўсты заглянцаваны канец бізуна звісаў цераз плячо да рэмення, а тонкі, сплецены з конскага воласа, — матляўся далёка ззаду. Я расказаў пастуху пра хворую дзяўчынку, пра дудачку, пра ўсё астатняе, што задумаў. Цімох паскроб пяцярнёй бараду:

— Вунь яно што... Ведаю яе, Нінку Кацькіну. Так, хворая яна, толькі дудку... Аддаў я яе піянерам. У лагеры яны жывуць. Кемлівыя дзеці, для выступленняў, гавораць... Ладна, што-небудзь прыдумаем...

Дамоў я вярнуўся ўжо ноччу. Зняў на ганку мокрыя чаравікі, забраўся на сяннік і, не распранаючыся, лёг на духмяную канюшыну. Пад страхой папіскваліі маладыя ластаўкі, у паветцы неспакойна валтузіліся куры, а ў хляве ўздыхала, жуючы жвачку, сытая карова. Цішыня і спакой ахуталі мяне, і я імгненна заснуў, быццам праваліўся ў забыццё. Многа ці мала прайшло часу, але прачнуўся я таксама раптоўна. Мне памроілася, быццам праз акно ў сяннік укаціўся з шыпеннем і шоргатам вогненны сонечны шар. Ён праплыў над маёй галавой, жарам дыхнуўшы ў твар, цягнучы за сабой залатое павуцінне промняў. Аднекуль з'явілася Ніна ў блакітнай іскрыстай вопратцы, з пярсцёнкамі на руках і караламі на шыі. Яна пачала іграць на гэтых праменьчыках, перабіраючы іх рухлівымі пальцамі. «Бом-бом, цінь-цінь», — чулася з усіх бакоў. Я страсянуў галавой і сеў. З усіх шчылін струменілася святло. Чуваць было, як з двароў гаспадыні выганяюць кароў. Дзесьці пралапатаў хрыпаты певень. Розныя гукі нахлынулі разам, быццам з берагоў выплюхнулася рэчка і пацякла, пацякла ў ценях і сонечных прасветлінах па лугах да вёскі. І раптам заспявала знаёмая дудачка... Але як яна сягоння спявала! Штосьці новае, бадзёрае, жыццесцвярджальнае разлівалася над лугамі. Дудачка спявала на славу раніцы, на славу жыцця...

...Ніна паправілася. Пайшла восенню ў шосты клас, а я ўжо вучыўся ў горадзе. Сустракаліся мы толькі на канікулах. Мне здавалася, што між намі было нешта большае, чым проста сяброўства. Гэта адчувалі мы абое. Але, але... Дзесьці ў дзявятым класе ў Ніны нечакана з'явіўся хлопец. З таго часу мы перасталі з ёй сустракацца. Хоць мне было вельмі балюча. Толькі я ведаў: таго, што было ў нас з Нінай, — не вярнуць.

Яна паступіла ў Брэсцкі педагагічны інстытут і паехала туды вучыцца. Прыязджала на канікулы. Аднойчы ў вясковым клубе Ніна запрасіла мяне на «белы» танец. Але размовы такой, якой мне хацелася б, не атрымалася. Не было ўжо тых пачуццяў, як раней. Дый на танцах яна была не адна — са сваім хлопцам.

Праз некаторы час яны пажаніліся. Як у іх склаўся сямейны лёс, ці былі шчаслівыя, я не ведаю, але неяк пры выпадковай сустрэчы заўважыў: штосьці яе мучыла, не давала спакою. Мне стала зразумела, што шчасця ў іх сямейным жыцці няма, але дапамагчы Ніне я нічым не мог. Толькі часам жаласлівы гук дудачкі напамінае мне, што некалі я быў радасным і патрэбным. Здаецца, гэты сумны гук плыве над летнімі вечаровымі лугамі і, як раней, кліча ў тое мінулае, непаўторнае...

# Цішыня і слава

**Не кожнаму паэту выпадае стварыць такія радкі, якія стануць агульнавядомымі, любімымі і будуць успрымацца як народныя, а не аўтарскія. І не кожны паэт яшчэ пры жыцці становіцца героем легендаў, баек — фальклору пра... Калі гэта паэт з біяграфіяй і талентам Глеба Гарбоўскага, то падобныя атрыбуты славы і прызнання не выклікаюць здзіўлення.**

**Алена КАРП, фота аўтара**

## ШЭПТ, ГУЧНЕЙШЫ ЗА КРЫК

Ён нарадзіўся ў 1931 годзе, і ўжо з самага ранняга дзяцінства яго анкета была сапсаваная. Бацьку рэпрэсіравалі ў 1937 годзе па беспадстаўным даносе. Дзесяць год Якаў Гарбоўскі правёў у лагерах, а потым, не здолеўшы дабіцца віду на жыхарства ў больш-менш буйных гарадах, пасяліўся ў Кінешме. Ёсць сведчанні, што маці паэта праз нейкі час выйшла замуж за таго самага пракурора, які абвінавачваў яе мужа.

Вайна заспела Глеба Гарбоўскага ў Порхаве, дзе жыла радня бацькі і дзе хлопчык бавіў летнія вакацыі. Маці засталася ў блакадным Ленінградзе. У жыцці паэта былі блуканні па дзіцячых дамах (пакуль яго не адшукалі маці з айчымам), рамеснае вучылішча, калонія для непаўналетніх і ўцёкі адтуль, служба ў страйбаце, большую палову якой Гарбоўскі правёў на гаўптвахце.

Гэтай бурнай біяграфіі хапіла б на паўнавартасны авантурны раман, але прызваннем стала паэзія. Ужо ў канцы 50-х Глеб Якаўлевіч быў вядомы як адзін з лепшых неафіцыйных паэтаў. «...юный поэт, почти не печатавшийся, вокруг буйной чуприны которого светился горделивый нимб непризнанности», — так пісаў пра яго тагачаснага Яўген Еўтушэнка. Трэба сказаць, што непрыманне было з боку літаратурнага чынавенства — захопленыя прыхільнікі хадзілі за Гарбоўскім світай.

Ён здзіўляў сваёй адкрытасцю і няпафаснасцю. Хоць, папраўдзе, напышлівая пафаснасць — гэта пасмяротны груз, якім жывыя ўзнагароджваюць мёртвых. Вось жа і Блок не быў пафасным, калі пісаў: «Я пригвождён к трактирной стойке». Гэтыя словы Гарбоўскі бярэ ў якасці эпіграфа (хочацца сказаць — у якасці падтрымкі) да верша. Ён уражвае сваёй сціпласцю: «Я тихий карлик из дупла, / лесовичок ночной. / Я никому не сделал зла, / но недовольны мной» — і дзёрзкасцю: прамоўленае падчас выступлення «Что, насторожились, дураки?» было ўспрынята як радок верша, і ў такім варыянце ён далей і разыходзіўся. Яго творы выдавалі надзвычайную чуйнасць, увагу да ўсяго жывога, да законаў і сутнасці быцця — таго, што можна ўбіраць у сябе, толькі будучы танкаскурым («Надо бы жить, да Господь не велит — слишком для этого кожа тонка»). Такі просты і ўважлівы — да дэталей і да галоўнага — ён у славутай песні «Розовый слон», у адным з найбольш вядомых сваіх вершаў «Ослик на Невском проспекте». Гэтага восліка, які сапраўды вазіў цыркавую касу, старажылы яшчэ памятаюць.

*Город — грохот так огромен!*
*В центре ослик. Кульками уши.*
*Скромный ослик. Немного грустный.*
*Служит ослик, как я, — искусству.*

«При всей шероховатости стихотворения, обаяние так велико (и поэта, и ослика), точность попадания в читательское сердце такая снайперская, что «Ослику» ничего другого не оставалось, как выполнить свою миссию и ввезти в святой город поэзии новое имя», — адгукаўся на гэты верш Слава Гозіяс. Аднак не так проста было застаць самнасам у гэтым святым горадзе. У часы, калі быў запатрабаваны не шэпт, а крык, не адзінка, а масы, калі насаджаўся калектывізм, ён не быў ізаляваны ад галасоў камунальнай кухні, а яна была шырэйшая за межы кватэры, дома, горада... З непаразумення паэта і камуналкі выраслі падобныя вершы:

*На кухню вызвали поэта,*
*и подбоченились жильцы;*
*соседка пепельного цвета*
*взяла поэта под уздцы,*
*затем на спину взгромоздилась,*
*затем —*
*пришпорила бока.*
<...>
*— По-эт!.. Сти-хи!..*
*Наверно, контра?!*
*Небось, похабщина?*
*Смотри!.. —*
*...Поэт отрезал руку бодро*
*свою,*
*отдал соседке:*
*жри!*
*Оттяпал ногу по колено*
*и протянул отцу-самцу,*
*потом*
*— чугунно-вдохновенно*
*себя ударил по лицу,*
*и голова —*
*тугим арбузом —*
*скатилась в мерзкое ведро...*
*Жильцы*
*ушли с набитым пузом.*
*Их каннибальское нутро —*
*не поглотило только*
*красный*
*трепещущий комок в груди!*

*О, как прекрасно-безобразна, —*
*маячит слава впереди!..*

Гарбоўскі са сваім па-дзіцячы чыстым зрокам, са сваёй пранікнёнасцю, дасціпнасцю, паўшэптам і адчайнаю, ліхою смеласцю ніяк не мог стаць у агульны строй. Гэтым і раздражняў наменклатуршчыкаў ад літаратуры. Аднак німб непрызнанасці — найчасцей доля маладых, не кожнаму пасуе насіць яго да канца сваіх дзён. У пэўным узросце ён можа згубіць свой шарм, пацерціся і не выклікаць даверу. Слава такі знайшла Глеба Гарбоўскага. Не выродлівая, бо яна шукала яго, а не ён яе, і таму ён змог прыняць яе годна, немітусліва. Сёння Глеб Якаўлевіч — член Саюза пісьменнікаў Расіі, член Акадэміі расійскай славеснасці, лаўрэат шматлікіх прэстыжных прэмій.

## СВЯТА НА ЦІХАЙ ВУЛІЦЫ

Глебу Гарбоўскаму была прысуджана прэмія Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва за паэтычны цыкл «Беларускі сшытак», паэму «Чмель у аўтобусе» і асобныя вершы 1969 — 1994 гг., прадстаўленыя ў 2-м і 3-м тамах яго збору твораў. Па стане здароўя паэт не змог прысутнічаць на «Славянскім базары ў Віцебску», дзе адбывалася ўручэнне прэміі. Сваю ўзнагароду ён атрымаў толькі напрыканцы мінулага года ў родным Санкт-Пецярбургу, у Пушкінскім доме, месцы, апетым Аляксандрам Блокам і ўвекавечаным Андрэем Бітавым, насычаным літаратурнымі алюзіямі і ад таго містычным і атмасферным.

Цырымонію ўзнагароджання вяла Вольга Вінаградава — намеснік кіраўніка Дэпартамента сацыяльнай палітыкі і інфармацыйнага забеспячэння Пасткама Саюзнай дзяржавы.



Глеб Гарбоўскі і Рыгор Рапота.

Асаблівасцю леташняга ўзнагароджання стала тое, што прэмію атрымалі два намінанты, а не тры, як звычайна. Акрамя Глеба Гарбоўскага (дарэчы, ён першы прадстаўнік Санкт-Пецярбурга сярод пераможцаў) быў уганараваны народны мастак Беларусі Георгій Паплаўскі за серыю жывапісных і графічных работ «Гісторыя і сучаснасць», серыю графічных цыклаў «Высокае неба», «Радзіма касманаўтаў», «Паўночны марскі шлях», «Чарнобыль. Будні беларускія», а таксама графічныя серыі афортаў і літаграфій да кніг «Слова пра паход Ігаравы», «Аповесці» Васіля Быкава, «Яна і Я» Янкі Купалы, «Выбранае» Якуба Коласа.

Дзяржаўны сакратар Саюзнай дзяржавы Рыгор Рапота прыляцеў у Санкт-Пецярбург адмыслова для таго, каб уручыць узнагароду паэту. Ён жа першым павіншаваў Глеба Якаўлевіча і яго жонку Лідзію Гладкую. «Мы ў Саюзнай дзяржаве вырашылі канец свету адмяніць, а правесці гэтае мерапрыемства, больш карыснае і прыемнае», — пажартаваў Рыгор Аляксеевіч. Ён згадаў, як у студэнцтве з сябрамі спявалі «Сижу на нарах, как король на именинах...», не ведаючы, хто аўтар гэтай песні, і выказаў захапленне тым шляхам, які прайшоў Глеб Гарбоўскі ад «блатной» песні да глыбокай філасофскай паэзіі. Выступоўца адзначыў сімвалічнасць таго, што прэмія ўручаецца менавіта ў Пушкінскім доме. «Тут усё буквальна «намолена» творчымі людзьмі, насычана паэзіяй, прозай, духоўнасцю...»

Сам лаўрэат быў нешматслоўны. Глеб Якаўлевіч прызнаўся ў любові да Беларусі, у прыватнасці, да Віцебшчыны: менавіта яна натхніла на стварэнне «Беларускага сшытка». Дарэчы, вёска Гарбова, адкуль паходзяць карані і прозвішча паэта, зусім недалёка ад Віцебскай вобласці.

Іван Краско, народны артыст Расіі, пісьменнік, у сваім віншавальным слове сказаў, што адчувае гонар за тое, што прызнанне атрымаў піцерскі паэт, творчасць якога ведала сапраўды ва ўсім былым Савецкім Саюзе. Гонар і ганарлівасць — розныя паняцці, падкрэсліў ён. Гонар — стваральнае пачуццё, якое спрыяе росту, гэтаксама як і прэмія Саюзнай дзяржавы робіць значны ўнёсак у развіццё культуры.

Выступоўцу падтрымаў і віцэ-губернатар Санкт-Пецярбурга Васіль Кічэджы. «Вы сапраўды гонар Ленінграда, гонар Санкт-Пецярбурга», — звярнуўся ён да Глеба Якаўлевіча.

Акадэмік, доктар філалагічных навук Барыс Аверын коратка прааналізаваў вершы з цыкла «Беларускі сшытак», паказаў, як вобраз ператвараецца ў сімвал. Барыс Валянцінавіч распавёў, як варожа ў свой час сустрэла крытыка зборнік Гарбоўскага «Цішыня» і як балюча ўспрымалі гэтыя нападкі прыхільнікі паэта. Аднойчы, сустрэўшы аўтара чарговай разгромнай рэцэнзіі, абвінавацілі яго ў паклёпе. На што той адказаў: «Вы не разумееце. Я раблю яму вядомасць». І надалей, чытаючы негатыўныя водгукі, сябры Гарбоўскага казалі: «Правільна. Так і трэба. Глеб — сапраўдны паэт».

Калі параўнаць раннія і познія зборнікі Глеба Якаўлевіча, стане відавочна, што пэўныя вершы цэнзураваліся, нешта выкідалася ці змянялася не ў лепшы бок, і тым не менш паэт ніводным радком не сфальшывіў, не схлусіў, — зазначыў Аверын. «Гарбоўскі — гэта той чалавек, які зрабіў нас і ў многім зрабіў эпоху», — завяршыў ён сваё выступленне. На палях зазначым, што і самога Гарбоўскага неаднойчы называлі чалавекам-эпохай. Эпоха і нават змена эпох — у яго творах.

Радасць з нагоды таго, што ўзнагароду атрымлівае не літаратурны генерал, а сапраўдны талент, выказаў галоўны рэдактар часопіса «Неўскі альманах» паэт Уладзімір Скварцоў. «Сёння свята ўсёй неўскай паэзіі», — зазначыў ён. Уладзімір Сцяпанавіч прэзэнтаваў другую кнігу шостага тома збору твораў Глеба Гарбоўскага, якая толькі-толькі пабачыла свет у серыі «Бібліятэка часопіса "Неўскі альманах"». Выданнем спадчыны Гарбоўскага займаецца Лідзія Гладкая — нязменны рэдактар яго жыцця і паэзіі, як назваў яе адной Еўтушэнка.

Пасля цырымоніі ўзнагароджання журналісты мелі магчымасць задаць свае пытанні Дзяржаўнаму сакратару Саюзнай дзяржавы. Цікавіліся арганізацыяй прэміі 2013 — 2014 гг., падтрымкай творчай моладзі. Рыгор Аляксеевіч паведаміў паміж іншым і пра тое, што рыхтуецца да друку кніга маладых беларускіх і рускіх празаікаў, якія працуюць у малых жанрах. Плануецца, што ўжо ў першай палове года чытачы змогуць яе ўбачыць.

*Ужо ў канцы 50-х Глеб Якаўлевіч быў вядомы як адзін з лепшых неафіцыйных паэтаў. «...юный поэт, почти не печатавшийся, вокруг буйной чуприны которого светился горделивый нимб непризнанности», — так пісаў пра яго тагачаснага Яўген Еўтушэнка.*

*Унікальны праект*

# Адкрыць Беларусь. Наноў




**Выдавецкая серыя «Энцыклапедыя рарытэтаў» Беларускай энцыклапедыі імя Петруся Броўкі папоўнілася новай кнігай. Чарговым томам на паліцы ўнікальных выданняў стаў сапраўды адметны альбом «Беларусы ў фотаздымках Ісака Сербава 1911 — 1912 гадоў». Пра асаблівасці працы над гэтай кнігай, каштоўнасць калекцыі этнаграфічных здымкаў, што цяпер захоўваюцца ў аддзеле рукапісаў бібліятэкі Вільнюскага ўніверсітэта, распавядае складальнік выдання, аўтар уступнага артыкула і навуковых каментарыяў, кандыдат мастацтвазнаўства, дацэнт кафедры этналогіі і фальклору Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Вольга Лабачэўская.**

**Марына ВЕСЯЛУХА,
фота з альбома «Беларусы ў фотаздымках Ісака Сербава 1911 — 1912 гадоў»**

## НАСТАЎНІК, КРАЯЗНАВЕЦ, ФАТОГРАФ

— Пачатак XX стагоддзя можна назваць часам захаплення фатаграфіяй. Менавіта тады тэхніка стала больш даступная і зручная для выкарыстання, нават ва ўмовах экспедыцый. Больш за тое, стала зразумела, што старая культура, стары побыт знікаюць. Таму этнографы падхапіліся. Былі распрацаваныя спецыяльныя праграмы фотафіксацыі асаблівасцей культуры розных народаў, у тым ліку і беларусаў: як трэба фатаграфаваць, на якія адметнасці і рысы звяртаць увагу даследчыкам. Такім аспектам вывучэння беларускіх земляў зацікавіўся Паўночна-Заходні аддзел Расійскага геаграфічнага таварыства ў Вільні.

Ісак Сербаў, краязнавец, настаўнік гімназіі ў Мінску, чалавек досыць шырокай эрудыцыі, аматар-этнограф, тры гады запар — у 1911-м, 1912-м, 1913-м — падаваў заяўкі на фінансавую падтрымку фотаэтнаграфічных экспедыцый па Беларусі. Натуральна, ён атрымліваў ад таварыства грашовую дапамогу, таму кожнае лета выпраўляўся ў падарожжы і фатаграфаваў. Сербава асабліва цікавіла Палессе, і менавіта туды ён накіроўваўся. У рэгіёне на той час яшчэ захоўваліся праявы архаічнай культуры, адметнасці быту. Здымкі, якія ён прывозіў з экспедыцый і прадстаўляў у якасці справаздачы, надта ўражвалі сяброў таварыства. Была нават задума выдаць гэтыя фота асобным альбомам, але Першая сусветная вайна перашкодзіла яе рэалізацыі, а потым і само таварыства спыніла сваё існаванне.

Больш як дзве тысячы фотаздымкаў было зроблена даследчыкам падчас трох экспедыцый, а ў таварыства перададзена прыкладна 1500 фота. На жаль, да нашага часу дайшлі толькі 442 фотакарткі. Спачатку яны захоўваліся ў Віленскай публічнай бібліятэцы, цяпер — у аддзеле рукапісаў бібліятэкі Вільнюскага ўніверсітэта. Часткова здымкі былі вядомыя і раней, але ў гэтым альбоме можна пазнаёміцца з усёй калекцыяй.

## МАРШРУТАМІ ЭТНОГРАФА

— Ахоп тэрыторыі Беларусі, прадстаўлены на здымках, уражвае. Нават нягледзячы на тое, што калекцыя захавалася не цалкам. Маршрут даследчыка пралягаў ад Мінска на Узду, Слуцк, пад Баранавічы, Пінск, далей на поўдзень, на сучасную тэрыторыю Украіны, якая раней адносілася да Пінскага павета, потым па Прыпяці да Давыд-Гарадка, Турава, Петрыкава, Рэчыцы, затым на тэрыторыю сучасных Жлобінскага, Светлагорскага, Калінкавіцкага раёнаў. Фотаздымкі, якія дайшлі да нашага часу, зроблены ў 74 населеных пунктах. У тыя ж гады здымалі і іншыя этнографы, але праца, зробленая Сербавым, па колькасці, якасці і ахопе тэрыторыі пераўзышла калекцыі іншых даследчыкаў.

Гэтыя здымкі часткова былі вядомыя і да выдання альбома. У 1950 — 1970-я гады ў Вільні працавалі нашы навукоўцы, рабілі копіі, якія публікавалі на старонках беларускіх этнаграфічных выданняў. Але, на жаль, здымкі страцілі і прозвішча аўтара, і дакладныя подпісы. Нават аўтарства Сербава да нядаўняга часу адсутнічала. Хоць напрыканцы 1980-х ці ў пачатку 1990-х пра фотаздымкі пісаў фальклярыст Іван Цішчанка з указаннем дакладнага аўтара. На жаль, яго публікацыі не былі заўважаныя шырокай грамадскасцю. І па сутнасці я была другім чалавекам, хто працаваў з віленскай калекцыяй і на падставе архіўных матэрыялаў даказаў, што гэта здымкі Сербава.

## ГАЛОЎНАЕ — АТРЫБУТАВАЦЬ!

— У самым пачатку працы з калекцыяй была зроблена яе атрыбуцыя згодна з сучасным адміністрацыйным падзелам Беларусі. Ісак Сербаў быў вельмі ўважлівым даследчыкам. Кожны здымак ім дакладна падпісаны: мясцовасць, імёны людзей, нават іх узрост і рост. Той факт, што подпісы зроблены з ужываннем адметнасцей мясцовай гаворкі, назваў, робіць гэтыя фота не проста справаздачай нашага першага візуальнага антраполага, але і вельмі каштоўным дакументам.



*Каморнік сп. Раманенка з сям'ёй і тэхнік Дабравольскі. Маёнтак Восава Рэчыцкага павета. 1912 г.*

Аднак толькі ў суаднесенасці з сучаснымі адміністрацыйнымі адзінкамі краіны з калекцыяй зручна працаваць. Дарэчы, яна сёння даступная і ў электронным каталогу на сайце бібліятэкі Вільнюскага ўніверсітэта.

Больш за тое, патрэбна было правесці атрыбуцыю калекцыі па гадах, бо Сербаў здзейсніў тры паездкі, і ў архіўных і рукапісных матэрыялах захаваліся яго справаздачы, пратаколы пасяджэнняў таварыства, па якіх можна было высветліць патрэбныя факты. Апынулася, што захаваліся здымкі толькі з паездак 1911 і 1912 гадоў, адсутнічаюць фота з экспедыцыі 1913 года, якая была накіравана на вывучэнне заходніх раёнаў сучаснай Брэстчыны. І вельмі шкада, бо калі б гэтыя фота ацалелі, мы мелі б амаль усю тэрыторыю Беларусі, прадстаўленую на старых здымках.



*Міна Мітраховіч кладзе воз. Вёска Рудня Бабруйскага павета. 1912 г.*

У выданні «Беларусы ў фотаздымках Ісака Сербава 1911 — 1912 гадоў» можна знайсці шмат карыснай інфармацыі. Так, тут упершыню ўведзены архіўныя крыніцы фонду Паўночна-Заходняга аддзела Рускага геаграфічнага таварыства з аддзела рукапісаў бібліятэкі Вільнюскага ўніверсітэта, у кнігу ўвайшлі вытрымкі з тэкстаў Сербава, яго справаздач, а таксама вядомай працы «Беларусы-сакуны». У рэшце рэшт, тут можна пабачыць і як выглядалі самі сакуны.

Па сутнасці, гэтая кніга стала сумесным выданнем, якое будзе на карысць і Беларусі, і Літве: яны прадставілі калекцыю са сваіх фондаў, а мы маем вельмі каштоўную крыніцу ведаў пра тое, якімі былі беларусы 100 год таму. Я вельмі ўдзячная намесніку дырэктара па пытаннях інфармацыйнай дзейнасці, навукі і культурнай спадчыны бібліятэкі Вільнюскага ўніверсітэта доктару Марыі Пракопчык, загадчыку аддзела рукапісаў Ніёле Шульгене і супрацоўніку аддзела Валянціне Карпавай. Асобная падзяка дырэктару выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» Тацццяне Бяловай, менавіта ёй належыць ідэя прадставіць у альбоме ўсю калекцыю.

Назва на вокладцы — на трох мовах: беларускай, англійскай і літоўскай, на англійскую і літоўскую перакладзены таксама прадмова і подпісы да здымкаў. А гэта, несумненна, дасць і замежным даследчыкам магчымасць пазнаёміцца з выданнем.

## РАЗБУРЫЦЬ СТЭРЭАТЫПЫ

— Калекцыя фотаздымкаў Сербава, атрыбутаваная і нібыта наноў знойдзеная, была прадстаўленая на дзвюх выстаўках у Вільні. Здымкі выклікалі вялікую цікавасць. Упершыню была паказана вось такая невядомая Беларусь, краіна, зусім не падобная да таго стэрэатыпнага вобраза краю, які існуе і ў нашых суайчыннікаў, і ў замежнікаў. Тут мы бачым людзей прыгожых, годных, няма галечы, жабрацтва. Беларусь напярэдадні Першай сусветнай вайны была краем досыць заможным, пра гэта пісаў Сербаў у справаздачах. Калекцыя стала своеасаблівым адкрыццём, ёй зацікавіўся нават часопіс, прысвечаны праблемам візуальнай антрапалогіі, які выдаецца ў Эдынбургскім універсітэце (Вялікабрытанія).

Мяне ж як навукоўца калекцыя прываблівала яшчэ і таму, што ў ёй — каштоўны матэрыял пра беларускі касцюм, архітэктуру, транспартныя сродкі, прылады працы. Больш за тое, самі здымкі прыемна глядзець, бо Сербаў меў выдатны мастацкі густ, умеў знаходзіць выразныя ракурсы. Ён валодаў нейкай даследчыцкай інтуіцыяй, таму, відаць, апынуўся ў патрэбны час у патрэбным месцы. Абставіны склаліся цудоўна, і ён паспеў зафіксаваць рысы беларускай культуры, якія праз некаторы час зніклі. Першая сусветная вайна, бежанства, падзел Беларусі, сацыяльныя пераўтварэнні змянілі і людзей, і культурны ландшафт...

Калі разглядаць выявы на старых здымках, параўноўваць іх з сучаснымі беларусамі, бачна: шмат што змянілася. Фізіялагічнае аблічча стала іншае, зніклі традыцыйныя строі (што з аднаго боку, непазбежна), мы страцілі нават некаторыя традыцыйныя для беларусаў імёны. Змянілася і сацыяльная структура насельніцтва. У час, калі Сербаў здзяйсняў свае падарожжы, у нас было больш як 90 працэнтаў сялян. На здымках прадстаўлены і іншыя сацыяльныя саслоўі: шляхта, мяшчане, інтэлігенцыя, ёсць і фота цыган, яўрэяў, якія жылі побач з беларусамі. Тут можна назіраць прамысловыя пераўтварэнні і з'явы сацыяльнага жыцця ў краі. Да прыкладу, на выявах Мінска ёсць фота падчас правядзення дабрачыннай акцыі «Дзень белай кветкі». Гэта была акцыя дапамогі хворым на сухоты. Усім, хто ахвяраваў грошы, давалі белую папяровую кветку. І ў гэты дзень амаль усе жыхары горада, нават ямшчыкі, былі з такімі кветкамі.

Магчыма, на гэтых здымках людзі знойдуць сваіх продкаў, сваякоў. Важна, каб беларусы ведалі гісторыю свайго краю: што было на гэтым месцы, хто жыў у гэтай вёсцы, якія тут былі пабудовы, якія строі насілі. Спадзяюся, што альбом абудзіць цікавасць да гісторыі і культуры беларусаў у нашых суседзяў за мяжой, а для кагосьці — адкрые зусім невядомую Беларусь.

# Завяшчаць нашчадкам любоў

У Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь адкрылася юбілейная выстаўка «Убачыць зямлю ўсю» Віктара Грамыкі, народнага мастака Беларусі. На ёй прадстаўлена каля 60 твораў жывапісу канца 1940-х — пачатку 2010-х гадоў.



Выдатны беларускі мастак, педагог, грамадскі дзеяч, мемуарыст, удзельнік Другой сусветнай вайны, узнагароджаны ордэнамі Вялікай Айчыннай вайны І ступені, Чырвонай Зоркі, «Знак Пашаны» і інш., член падпольнай арганізацыі Канстанціна Заслонава ў Оршы, разведчык, кулямётчык, камісар атрада Смаленскага палка спецыяльнага прызначэння, рэдактар газеты «Народные мстители», Віктар Грамыка адсвяткаваў 90-гадовы юбілей. У сваіх карцінах ён увасобіў захапленне веліччу і прыгажосцю прыроды, кранальнасцю і годнасцю чалавека.

Паводле самога юбіляра, выстаўка нездарма называецца «Убачыць зямлю ўсю», бо, калі праглядзець работы, якім ён надаваў найбольш увагі на працягу сваёй творчасці, — можна пабачыць чалавека, яго патрыятызм, цудоўную беларускую прыроду, восеньскія і вясеннія дзянькі, бярозы, абсыпаныя золатам, лён, нібы каштоўная тканіна, разасланы па ўзгорках Віцебшчыны... Усё гэта надае рэчаіснасці іншы, унутраны сэнс.

Выказаць сваю павагу, любоў і шчырае захапленне творчасцю і моцай духу Віктара Аляксандравіча завітала вялікая колькасць гасцей: родныя, сябры, калегі, вучні, бо значную частку свайго жыцця народны мастак прысвяціў выхаванню маладога пакалення, не толькі вучыў тэхнічным прыёмам, але і імкнуўся на ўласным прыкладзе данесці простыя ісціны: няма нічога больш істотнага за любоў да Радзімы, чалавека. Віктар Грамыка працаваў выкладчыкам, старшым выкладчыкам, дацэнтам, дэканам мастацкага факультэта БДТМІ (Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута), нездарма рэктар Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Міхаіл Баразна ў віншавальным слове падкрэсліў, што «Віктар Грамыка ў сваім мастацкім жыцці прайшоў шлях ад салдата да генерала мастацтва, у акадэміі — ад студэнта да прафесара». Міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў зачытаў віншаванне народнаму мастаку ад Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі.

Віктар Грамыка прызнаўся:

— Самая суровая выснова, якую я зрабіў, — жыццё вельмі кароткае, вось чаму мне сумна слухаць вашы цудоўныя словы, якіх я, можа, і не заслугоўваю. Мне балюча таму, што я далей пацвярджаць і апраўдваць іх не змагу. Аднак я пастараюся сысці так, каб завяшчаць нашчадкам любіць сваю зямлю, чалавека, браць удзел у выхаванні мужнасці і патрыятызму.

Віктар Грамыка вядомы не толькі як мастак, але і як літаратар, лаўрэат міжнароднай прэміі імя М. А. Шолахава за 2010 год. Мастак-пісьменнік стварыў шэраг кніг-успамінаў пра Вялікую Айчынную вайну.

На пытанне, як у яго атрымліваецца ўсё паспяваць, юбіляр дае просты адказ:

— З юнацтва я быў загружаны грамадскай працай па афармленні школьных газет, маляванні шаржаў, таму і прызвычаіўся, што субота і нядзеля — вельмі прыдатныя для працы дні. Да таго ж, менавіта на выхадных я заўсёды меў магчымасць папрацаваць у майстэрні. Трэба выхоўваць характар, быць верным Радзіме, на пярэдні план выводзіць сваю прафесію — тады ўсё будзе атрымлівацца.

Творчасць Віктара Аляксандравіча нязменна суадносіцца з высокімі ўяўленнямі пра сэнс жыцця, пра патрэбу для кожнага чалавека ў духоўных ідэалах і перакананнях, пра адказнасць мастака перад сваім народам. У беларускае мастацтва ён увайшоў як майстар гісторыка-гераічнай карціны, буйнамаштабнага эпічнага пейзажа і псіхалагічнага партрэта.



*Зімовая шаша. 1962.*



*Партрэт пісьменніка Янкі Брыля. 1963.*

— Сучаснаму мастацтву мне хацелася пажадаць, каб яно вярнулася да чалавека, — адзначыў Віктар Грамыка. — Сёння маладыя мастакі ствараюць нешта такое, што і акрэсліць немагчыма. Аднак абваленая тынкоўка ці камяні, якія валяюцца на дарозе, не ўяўляюць сабой ніякіх здабыткаў формы, адно маглі б стаць матэрыялам для скульптара. А вось чалавек з характарам, любоўю, патрыятызмам апынуўся на ўзбочыне. Узровень майстэрства нашых мастакоў высокі, Еўропа можа проста пазайздросціць, аднак чамусьці гэта мы зайздросцім ёй і выглядваем тое, што нам зусім не ўласціва, што прыносіць велізарныя страты падрастаючаму пакаленню, абяцаючы поспех і шчасце. Але гэта — позірк у нікуды, і шчасце не ў гэтым.

**Зоя АЛЕКСАНДРОВІЧ**

# Дзённік як форма выказвання

Выстаўка мастака Валерыя Песіна «Дзённік» расчыніла дзверы для наведвальнікаў у Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва.

**Алеся АРЫЦКАЯ,**
**фота Кастуся Дробава**

Валерый Песін — сапраўдны вольны творца, чый шлях да мастацтва складана назваць прамым: да таго як стаць вядомым і прызнаным як у Беларусі, так і за яе межамі, будучы мастак перапрабаваў вялікую колькасць самых розных прафесій, ад працоўнага на заводзе да дворніка. «Жыццё — вандроўка, падарожжа, рух. Шчасце — не ў дасягненні мэты, а ў бясконцым шляху да яе. На гэтым шляху ўвесь час, кожны момант сустракаюцца прадметы, персанажы, вартыя ўвагі, захаплення, здзіўлення, а, як вядома, уменне здзіўляцца — першая якасць мастака. А галоўная задача — правільна паказаць сітуацыю. І яшчэ ўвесь час знаходзіцца ў тым цудоўным стане, імя якому — падарожжа», — лічыць Валерый Песін, які ўсё жыццё імкнуўся звесці да мінімуму залежнасць ад дзяржавы, соцыуму, сістэм. Яго творы, лёгкія і празрыстыя на першы погляд, валодаюць асаблівай сілай прыцягнення: дастаткова пабачыць іх адзін раз, каб яны трывала заселі ў глыбінях падсвядомасці.

— Назва выстаўкі «Дзённік» ні да чаго не абавязвае, — распавёў Валерый Песін. — Наогул, калі я працую над карцінамі, я не задумваюся над нейкай пэўнай тэмай, колерамі, кампазіцыяй малюнкаў — яны ўзнікаюць самі па сабе. Дадзеная экспазіцыя складаецца з твораў эскізнага плана, менавіта замалёвак, імгненных, хуткіх — мне хацелася паказаць разнастайнасць настрояў, тэм, сюжэтаў. Кожная з карцін адлюстроўвае мае адчуванні, яны змаляваны з натуры — штуршок быў пададзены нейкай сітуацыяй. Вось, напрыклад, «Птушка ў акне». У кватэры прапала электрычнасць, я выйшаў на лесвічную пляцоўку разабрацца, што ж здарылася, і зразумеў, што ў шчыток патрапіла галчанё. Я выпусціў яго, мой сабака з радасцю бегаў па пад'ездзе, імкнучыся выгнаць птушанё на вуліцу. У яго гэта атрымалася, а ў маёй памяці так і застаўся брудны колер сцен пад'езда і расчыненае акно. Наогул, калі я разумею, што сказаў усё, што мог, — я заканчваю маляваць карціну. Атрымліваецца, што кожны можа развіць сюжэт так, як дазваляе яго фантазія. Усё залежыць ад настрою і светаўспрымання на дадзены момант. Вы пытаецеся, ці можна пабачыць на творах гэтай экспазіцыі Мінск. Хутчэй за ўсё не. Што ж зробіш — карцін у мяне шмат, усіх у прасторы выставачнай залы не змесціш. Аднак, згадзіцеся, горад для кожнага свой. Для мяне Мінск — гэта не Палац Рэспублікі, не яго сталічна-парадны бок, але бок правінцыяльны. Гэта — пах лопуху ў старым горадзе, які яшчэ не быў адрэстаўраваны ў маім дзяцінстве. Траецкае прадмесце і верхні горад, дзе мы бегалі хлапчукамі і разбіралі печкі ў закінутых дамах у пошуках скарбаў. І, зразумела, цэнтральныя паркі.

Паводле Вольгі Рыбчынскай, арт-крытыка і загадчыцы аддзела Музея сучаснага выяўленчага мастацтва, асноўная ідэя выстаўкі «Дзённік» заключаецца ў змыканні аўтарам такіх двух паняццяў, як мастацкая творчасць і вядзенне дзённіка.

— Індывідуальны, вельмі асабісты досвед успрымання свету і яго інтэрпрэтацыя становяцца формай выказвання для аўтара. Аднак праз праект аўтарская сістэма назіранняў, разважанняў і імкненне да безацэначнай фіксацыі выводзіцца ў публічнасць. І тут існы не толькі ідэалагічны складнік фіксацыі штодзённасці, пераадоленне яе шляхам трансфармацыі ў тэксты графікі — пабудова экспазіцыі такая ж фрагментарная, адрывістая, без пэўнай сюжэтнай лініі. У «Дзённіку» штодзённасць акумулюецца пры дапамозе традыцыйных відаў мастацтва: графікі і жывапісу, — яны складаюць аснову візуальнага кантэнту праекта. Зафіксаваная тут штодзённасць — гэта відавочная, руцінная гісторыя, якая перапрацоўваецца аўтарам і змыкаецца з сацыяльным асяроддзем. Такім чынам, адбываецца пераадоленне штодзённасці.



## У святле рампы

**Дзіяна КАРОЛЬ**

✓ Прэм'ера балета «Асоль» (дырыжор-пастаноўшчык А. Лясун, балетмайстар-пастаноўшчык народны артыст Беларусі У. Іваноў, мастак-пастаноўшчык В. Праўдзіна) адбудзецца 12 і 13 студзеня ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным музычным тэатры. «Асоль» — беларускі балет, за аснову якога ўзята знакамітая аповесць А. Грына «Пунсовыя ветразі», напісаная ў 1916 — 1922 гг. Кампазітар У. Саўчык і балетмайстар-пастаноўшчык, народны артыст Беларусі У. Іваноў прачыталі гэту гісторыю па-свойму. Саўчык стварыў музычнае рашэнне, далёкае ад пяшчотна-ружовых тонаў, пераклаў рамантычную прозу Грына на сучасную і экспрэсіўную мову балета. Млявых жаночых уздыхаў не будзе. Як і пунсовых ветразяў. Спектакль «Асоль» — гэта не свет казкі, а імклівае дзеянне, якое рушыць да гледача на ўсіх ветразях. Да таго ж, нельга сказаць дакладна — дзе і калі адбываецца дзеянне. Паводле Іванова, ён імкнуўся пазбавіць гісторыю часавых прыкмет, каб яна існавала па-за часам і прасторай.

✓ Тэатр «Mimoza» сумесна з Дзіцячай студыяй тэатралізаванага танца «Осьміножка» прадстаўляе спектакль «Чарадзейныя запалкі» (рэжысёр Вольга Прохарава) — мюзікл для ўсёй сям'і паводле матываў казкі Ганса Хрысціяна Андэрсана «Дзяўчынка з запалкамі». Прэм'ерны паказ адбудзецца 20 студзеня а 18.00 на сцэне Маладзёжнага тэатра эстрады. У пошуках цяпла маленькая дзяўчынка запальвае сярнічку, каб сагрэцца, і марыць пра тое, каб у яе таксама была сапраўдная сям'я, як і ў іншых дзяцей... Дзяўчынка не чакае цудаў, аднак раптам трапляе ў казку, а там свае законы і правілы, свой чароўны свет, зазірнуць у які атрымаецца толькі ў тых, хто прыйдзе на спектакль-мюзікл.

Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі

Бібліятэчны сшытак

11 студзеня 2013 г.

# «Кнігуру» — у Мінску!

Чытальная зала Цэнтральнай гарадской дзіцячай бібліятэкі імя М. Астроўскага стала месцам сустрэчы супрацоўнікаў дзіцячых кніжніц горада Мінска з прадстаўнікамі праекта «Кнігуру».

**Юлія ВАСІЛЬЕВА**

Упэўнена: у чытачоў «ЛіМа», якія ўважліва сочаць за літаратурнымі падзеямі ў суседніх краінах, не ўзнікне аніякіх цяжкасцей з тлумачэннем назвы праекта. «Кнігуру» — гэта ўсерасійскі конкурс на лепшы літаратурны твор для дзяцей і юнацтва. Істотнае адрозненне паміж ім і іншымі літаратурнымі праектамі ў наступным: конкурсантаў ацэньваюць толькі... дзеці і падлеткі з больш як 100 гарадоў Расіі, а таксама ўдзельнікі з Беларусі, Украіны, Казахстана і нават Аўстраліі. Зразумела, дарослыя могуць чытаць конкурсныя творы, каменціраваць іх, але ў падвядзенні вынікаў іх галасы не ўлічваюцца. Такім чынам, пераможцы «Кнігуру» — гэта творы, выбраныя чытачамі.

Стаць удзельнікам конкурсу можа любы жадаючы, незалежна ад узросту і месца жыхарства. Цікаўных чытачоў адсылаю да поўнага тэксту правілаў, што размешчаны на афіцыйным сайце праекта *http://кнігуру.рф* у раздзеле «Палажэнне».

Чаму ў дзяцей ёсць стымул удзельнічаць у конкурсе? У праекце дзейнічае спецыяльная заахвочвальная праграма. Кожны год арганізатары разам з некалькімі пісьменнікамі адпраўляюцца ў госці да дзяцей у той горад, пасёлак або нават вёску, дзе была зафіксавана найбольшая актыўнасць удзельнікаў — у галасаванні, водгуках на прачытаныя творы і абмеркаваннях. Прычым едуць з падарункамі!

У Мінск завіталі каардынатар конкурсу, літаратурны крытык Ксенія Малдаўская, эксперт конкурсу, літаратурны крытык, старшы навуковы супрацоўнік Расійскай кніжнай палаты Марыя Парадзіна, пісьменнік, фіналіст «Кнігуру», журналіст газеты «Коммерсантъ» Шаміль Ідзіятулін, што піша пад псеўданімам Наіль Ізмайлаў. Госці правялі прэзентацыю праекта, распавялі пра навінкі і тэндэнцыі кніжнага рынку, зрабілі агляд апошніх выдадзеных кніг лаўрэатаў і лепшых удзельнікаў конкурсу.

На завяршэнне сустрэчы выступаў Наіль Ізмайлаў. Ён распавёў пра свой твор «Убыр», які таксама ўдзельнічаў у конкурсе «Кнігуру». Адказваючы на пытанне пра любімых аўтараў, ён назваў Крапівіна, Катаева і братоў Стругацкіх, час творчасці якіх супаў з «залатым векам» савецкай літаратуры. З сучасных аўтараў Наіль Ізмайлаў параіў звярнуць увагу на Эдуарда Веркіна, апошні твор якога «Облачный полк» стаў лаўрэатам другога сезона «Кнігуру» — у катэгорыі «Мастацкая літаратура».

На думку Марыі Парадзінай, юныя чытачы проста не могуць сарыентавацца ў вялікай колькасці навінак. А бібліятэкары і прадаўцы не здольныя ім дапамагчы, бо не знаёмыя з новымі кнігамі. Таму М. Парадзіна заклікала сачыць за навінкамі, каб быць «у тэме», ведаць, што цікавае выйшла за апошні час і на што варта звярнуць увагу. Да таго ж, усе прапанаваныя для галасавання творы знаходзяцца ў свабодным доступе на афіцыйным сайце (прычым нават пэўны час пасля абвяшчэння пераможцаў): арганізатары конкурсу робяць усё, каб у падлеткаў не было ніякіх абмежаванняў у атрыманні цікавай і сучаснай літаратуры.

# Вялікі свет

Напрыканцы мінулага года ў Гомельскай абласной бібліятэцы ў межах дзяржпраграмы «Культура Беларусі» на 2011 — 2015 гады быў урачыста адкрыты першы ў рэгіёне куток з тыфлатэхнікай для людзей са слабым зрокам і невідушчых.

**Алег АНАНЬЕЎ**

Гэта новае пакаленне абсталявання, якое аўтаматычна скануе і чытае друкаваны матэрыял на 18 мовах. Ёсць магчымасць павелічэння памеру шрыфту, а таксама падключэння да дысплея Брайля. У камплектацыю ўваходзіць бібліятэка класічнай літаратуры — больш як 200 кніг!

Як працуе камп'ютарнае абсталяванне, прадэманстравала спецыяліст аддзела абанемента Антаніна Гуцава. Дарэчы, тыфлатэхніку ўжо асвоіў адзін з актыўных чытачоў бібліятэкі Уладзімір Чараухін — паэт, аўтар сумеснага з Дар'яй Дарошкай паэтычнага зборніка «Не наступайте птице на крыло».

Не так важна, пры дапамозе чаго працаваць на камп'ютары — выкарыстоўваць звычайную або брайлеўскую клавіятуру — і якім чынам камп'ютар вам адказвае. Галоўнае — ён адкрывае чытачам вялікі свет.

У планах абласной бібліятэкі — стварэнне тыфлаінфармацыйнага цэнтра камп'ютарных тэхналогій для далейшай сацыяльнай рэабілітацыі, павышэння якасці жыцця невідушчых і людзей са слабым зрокам.

# Узгадваючы Русецкага

Вечарына паэзіі «Былі мне любы ўсіх дарог вятры», прысвечаная 100-годдзю паэта і перакладчыка Аляксея Русецкага, адбылася ў Касцюковіцкім раённым краязнаўчым музеі.

**Наталля ДРОБЫШАВА**

Мерапрыемства арганізавана народным аматарскім аб'яднаннем «Літаратурная гасцёўня "Крынічка"», якое ўжо 30 год дзейнічае пры Касцюковіцкай цэнтральнай бібліятэцы імя І. Г. Чыгрынава.

Удзел у імпрэзе ўзялі дзеці Аляксея Русецкага Ірына і Уладзімір, а таксама пісьменнік Віктар Патапенка, ураджэнец касцюковіцкай зямлі. Яны расказалі пра тыя моманты жыцця паэта, якіх не знойдзеш ні ў энцыклапедыях, ні ў прадмовах да зборнікаў. А ў падарунак бібліятэкам горада пакінулі копіі фотаздымкаў з асабістага архіва паэта, зборнікі вершаў, сярод якіх кніга паэзіі «На апошнім прыстанку». Зборнік склалі творы, напісаныя аўтарам у апошнія гады жыцця. Паэт сам рыхтаваў зборнік, даў яму назву, але выдаць не паспеў... Кніга дапоўнена паэтычнымі накідамі і нататкамі з дзённікаў.




# У чаканні «Блазна Балакірава»...



У аддзеле мастацтваў Магілёўскай абласной бібліятэкі імя У. І. Леніна яшчэ ў 90-я гады мінулага стагоддзя нарадзілася традыцыя творчых сустрэч з акцёрамі Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра. З 2007 года такія мерапрыемствы ладзяцца штогод у снежні. Сёлета гасцямі сталі акцёры Аляксандр Паноў, Дзмітрый Дудкевіч, Васіль Галец і рэжысёр-пастаноўшчык Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага (г. Мінск) Валянціна Еранькова.

**Юлія СТАНАВАЯ**

В. Еранькова не ўпершыню працуе ў Магілёўскім тэатры. Тут яна паставіла ўжо чатыры спектаклі: «Я твая нявеста» (балада пра закаханых паводле п'есы Віктара Астаф'ева), «Піжама для шасцярых» (камедыя паводле п'есы Марка Камалецці), «Сільвія» (рамантычная камедыя паводле п'есы Альберта Рамсдэла Герні) і «Кавалер руж» (камедыя паводле п'есы Андрэя Курэйчыка). Валянціна Рыгораўна шчыра прызналася, што ёй «вельмі цёпла» працуецца з трупай магілёўскага тэатра, таму ад запрашэнняў яна ніколі не адмаўляецца. Не адмовілася і калі прыблізна год таму ёй прапанавалі паставіць на магілёўскай сцэне спектакль паводле п'есы Рыгора Горына «Блазан Балакіраў».

«Блазан Балакіраў» — апошняя п'еса Рыгора Горына. Як сведчыць Марк Захараў, блізкі сябра творцы, працу над ёй драматург скончыў за некалькі гадзін да смерці. Сюжэт п'есы заснаваны на рэальных падзеях пятроўскага часу. Прэм'ера «Блазна Балакірава» ў пастаноўцы Марка Захарава адбылася ў «Ленкоме» 14 мая 2001 года і ўжо больш як дзесяць год не сыходзіць са сцэны маскоўскага тэатра. Магілёўская прэм'ера спектакля ў пастаноўцы Валянціны Еранькова (якая, дарэчы, стажыравалася ў Марка Анатольевіча) прызначана на люты гэтага года.

«Снежаньскія сустрэчы-2012» прачынілі заслону пастаноўкі. Кульмінацыйным момантам стала сцэна з будучага спектакля. Стаіўшы дыханне, гледачы сачылі за тонкім, шматзначным дыялогам, які разгортваўся паміж Іванам Балакіравым у выкананні Дзмітрыя Дудкевіча і обер-пракурорам Ягужынскім у выкананні Васіля Гальца (дарэчы, Васіль Мікалаевіч ужо доўгі час з'яўляецца пастаянным чытачом абласной бібліятэкі і нязменным памочнікам у арганізацыі «Снежаньскіх сустрэч»; многія да гэтага часу з удзячнасцю згадваюць леташнюю сустрэчу з ім).

Таленавітае выступленне акцёраў, душэўная размова з гледачамі пакінулі самыя яркія ўражанні і жаданне абавязкова трапіць на прэм'еру спектакля «Блазан Балакіраў».

# Неардынарнасць асобы

«Нястомны руплівец беларускай культуры» — такую назву мела вечарына, прысвечаная 75-годдзю знакамітага беларускага культурнага дзеяча, заслужанага работніка культуры Беларусі Віктара Губіча, якая прайшла ў Гродзенскай абласной навуковай бібліятэцы імя Я. Ф. Карскага.

**Любоў ТУРМАСАВА**

Віктар Аляксандравіч нарадзіўся 15 снежня 1937 года ў вёсцы Лясковічы Бярэзінскага раёна Мінскай вобласці ў шматдзетнай сям'і. Скончыў Гродзенскае культурна-асветнае вучылішча, працаваў у Дзяржынскім сельскім клубе Зэльвенскага раёна. Служыў у арміі. Пасля вярнуўся ў Зэльвенскі раён і заняў пасаду дырэктара Зэльвенскага раённага Дома культуры. Ужо там вызначыўся яго арганізатарскі талент, творчы падыход да любой клубнай справы. У 1962 годзе жыццёвы шлях прывёў Віктара Аляксандравіча ў Вялікую Бераставіцу.

Па заканчэнні Маскоўскага інстытута культуры Віктар Губіч быў запрошаны на пасаду намесніка начальніка ўпраўлення культуры Гродзенскага аблвыканкама. Менавіта тут у поўнай меры раскрыліся неардынарнасць яго асобы, прафесіяналізм і захопленасць любімай справай.

Падчас мерапрыемства дзейнічала кніжна-ілюстрацыйная выстаўка, на якой былі прадстаўлены каштоўныя дакументы пра жыццёвы і творчы шлях В. Губіча. Сярод іх — узнагароды: пасведчанні аб прысваенні званняў «Заслужаны работнік культуры БССР», знака Міністэрства культуры СССР «За выдатную работу», Ганаровая залатая адзнака Польскага агенцтва INTERPRESS ды іншыя. Таксама былі прадстаўлены артыкулы пра віноўніка ўрачыстасці з выданняў энцыклапедычнага кшталту, яго інтэрв'ю, публікацыі пра фестывалі, святы, агляды мастацкай самадзейнасці, што змяшчалі не толькі мясцовыя, але і рэспубліканскія перыядычныя выданні: «Мастацтва Беларусі», «Літаратура і мастацтва» і г. д.

Выстаўка аздоблена і разнастайнымі фотаздымкамі, якія ўзнаўляюць прафесійнае і асабістае жыццё Віктара Губіча.

# Лунінецкі кніжны баль

Урачыстым «закрыццём» Года кнігі ў Лунінецкім раёне стаў кніжны баль «Няхай жыве кніга!», што прайшоў у цэнтральнай раённай бібліятэцы.

**Лілія ПЛАЎСЮК**

На мерапрыемства завіталі мясцовыя літаратары Рыгор Жук і Аляксандр Хаўдзееў, якія прачыталі свае любімыя вершы. Прыемным падарункам для ўсіх стала выступленне Ганны Бандарэнкі, якая не толькі чытала вершы і выконвала песні, але і падрыхтавала паказ дзвюх калекцый адзення — «З бабулінага куфэрка» і «Сны Радзівілаў», іх прадставілі ўдзельніцы яе тэатра моды.

На кніжным балі таксама назвалі пераможцаў раённага агляду-конкурсу сярод бібліятэк: на лепшы выраб макета кнігі, «Суперчытач года», «Суперкніга года». Суперчытачамі цэнтральнай раённай бібліятэкі сталі Сяргей Грушэўскі і Яўгенія Арлова, сярод дзяцей — Марыя Соц.

Добра папрацавалі бібліятэкары над макетамі кніг. Тут на першым месцы Алена Арашкевіч (бібліятэка Райаграсэрвісу), на другім — Лідзія Цімашэй (Лунінская сельская бібліятэка), на трэцім — Галіна Кунцэвіч і Алена Пракаповіч (Сінкевіцкая сельская бібліятэка). За арыгінальнасць выканання была адзначана Тамара Ермаковіч (Лабчанская сельская бібліятэка), а прыз глядацкіх сімпатый атрымала работа Людмілы Карповіч (Дрэбская сельская бібліятэка-клуб).

# Жорсткасць і адзінота: ці ёсць выйсце?

Дзіцячыя бібліятэкі горада Мінска працягваюць супрацоўніцтва з маскоўскім выдавецтвам «КомпасГид».

**Вольга ВОВК**

У кожнай бібліятэцы ёсць так званыя «складаныя» кнігі. Спрэчныя і неадназначныя, якія не выдаюць абыкаму. Яны закранаюць такія тэмы, як тэрарызм, гвалт у сям'і і школе, генацыд, адзінота дзяцей, жорсткасць і непрымірымасць да тых, хто хоць трохі да нас не падобны. Гэтыя выданні прымушаюць нас, дарослых, нервавацца і даваць тлумачэнні. Пасля чытання іх ужо не зробіш выгляд, што праблемы не існуе. Менавіта такія кнігі выходзяць у выдавецтве «КомпасГид», заснаваным у 2010 годзе.

Тры гады таму ў дзіцячай бібліятэцы № 13 была створана пляцоўка для калектыўнага прачытання ці нават пражывання кніг, якая называлася «Сумеснае чытанне. Дзеці + дарослыя». Пасля прэзентацыі кніг для бацькоў паліца з компасгідаўскай літаратурай апусцела, нават утварылася чарга па кнігі. Дарослыя сталі з цікавасцю сачыць за навінкамі ў гэтай сферы. Выдавецтва з Масквы дасылала бібліятэцы ўсю запытаную інфармацыю, методыкі працы і напрацоўкі іншых кніжніц.

А ў дзіцячай бібліятэцы № 1 прайшоў шэраг сустрэч з аўтарамі і ілюстратарамі «КомпасГида». Бібліятэкарам і дзецям пашчасціла ўбачыць Дэльфіну Перэ, аўтара кнігі «Я, воўк і шакаладкі», з дапамогай якой атрымліваецца прыцягнуць да чытання дзяцей, якія літаральна не могуць цярпець кнігі. У Мінск прыязджалі і Франк Паўлаф, аўтар антыфашысцкай навелы «Карычневая раніца», і Аліўе Талек, французскі мастак-ілюстратар. У бібліятэцы № 17 адбыўся цыкл чытанняў-дыялогаў «Пакінь водгук у душы дзіцяці» па компасгідаўскіх кнігах. Чакаем працягу!

# Што? Дзе? Калі?

Навагоднія і калядныя святы ніяк не паўплывалі на актыўнасць устаноў бібліятэчнай сферы, якія па-ранейшаму запрашаюць сваіх чытачоў на імпрэзы і выстаўкі.

**Даніла АРЦІМОВІЧ, Алеся БАЦЮСЬ**

На працягу студзеня ў зале нотных і аўдыядакументаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі праходзіць юбілейная выстаўка «Музыкай абудзіць памяць», прысвечаная 60-годдзю беларускага кампазітара Уладзіміра Солтана (1953 — 1997). Творчую спадчыну аўтара склалі оперы «Дзікае паляванне караля Стаха» (1988), «Пані Ядвіга» (1990) і «Мілавіца» (1991), сімфоніі, вакальна-харавая музыка, камерна-інструментальныя творы, музыка да кінафільмаў і інш. На выстаўцы прадстаўлены артыкулы з перыядычных выданняў пра жыццё і творчасць кампазітара, а таксама нотныя выданні і аўдыязапісы твораў аўтара. Гэта арыі і хары з опер, канцэрт № 1, канцэртны вальс для вялікага сімфанічнага аркестра, сімфонія № 2, сімфанічная паэма, канцэрт для віяланчэлі з аркестрам, інструментальныя мініяцюры «Пастараль», «Прэлюдыя», «Мелодыя», песні «Мая родная зямля», «Лістапад», «Дожджык», хары «Скажы, вада», «Першы снег» і інш.

* * *

120-годдзю з дня нараджэння беларускай паэтэсы, заслужанага дзеяча культуры Беларусі Канстанцыі Буйло (1893 — 1986) прысвечана выстаўка «Пяснярка роднага краю», якая да канца студзеня будзе працаваць у зале беларускай літаратуры НББ. Акрамя зборнікаў розных гадоў (ёсць тут і «Выбраныя творы», 1954, «Світанне», 1950, і нават першая кніга паэтэсы «Курганная кветка», што пабачыла свет у 1914 годзе), у экспазіцыі прадстаўлены публікацыі яе твораў у часопісах, калектыўных зборніках. Не менш цікавымі падаюцца прапанаваныя пераклады на англійскую, французскую, грузінскую, літоўскую, рускую і іншыя мовы. Пра творчы і асабісты лёс Канстанцыі Буйло раскажуць выданні, аб'яднаныя ў раздзеле «Яе камяністы шлях». Усяго ж на выстаўцы прадстаўлена каля трох соцень дакументаў, шмат фотаздымкаў.

* * *

Выстаўка «Воднае супрацоўніцтва: вопыт мінулага і задачы будучыні», прысвечаная Міжнароднаму году воднага супрацоўніцтва (Генеральная Асамблея ААН абвясціла 2013-ы Міжнародным годам воднага супрацоўніцтва на сваёй 65-й сесіі 20 снежня 2010 года), працуе ў аддзеле абслугоўвання афіцыйнымі дакументамі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. На выстаўцы прадстаўлена звыш 100 дакументаў на рускай і англійскай мовах: кнігі, перыядычныя выданні, мімеаграфаваныя матэрыялы ААН, брашуры, буклеты. Экспазіцыя ўключае наступныя тэматычныя раздзелы: водныя рэсурсы свету, іх стан і выкарыстанне; воднае супрацоўніцтва: міжнародныя прававыя дакументы ў галіне аховы, захавання і выкарыстання водных рэсурсаў; міжнародныя вадасцёкі: ахова і кіраванне трансгранічнымі воднымі рэсурсамі; дэфіцыт прэснай вады — глабальная праблема; выкарыстанне, стан і ахова водных рэсурсаў Рэспублікі Беларусь.

* * *

У Віцебскай абласной бібліятэцы імя У. І. Леніна прайшла дабрачынная акцыя «Разам з кнігай — у новы год!», арганізаваная для выхаванцаў Вялікалетчанскага дзіцячага дома пры падтрымцы і ўдзеле Віцебскага аддзялення Беларускага саюза жанчын, аблвыканкама і кандытарскага камбіната «Віцьба». Начальнік упраўлення культуры аблвыканкама, старшыня Віцебскага аддзялення Беларускага саюза жанчын Ларыса Аленская падарыла дзецям кнігі пра родны край. Тэатралізаванае прадстаўленне, падрыхтаванае супрацоўнікамі аддзела дзіцячай літаратуры, стварыла святочную атмасферу, а завяршылася свята ўручэннем салодкіх падарункаў ад «Віцьбы».

* * *

«Каляды ў Элізы Ажэшкі» прайшлі ў Гродне ў межах праекта «Жывая гісторыя». Арганізатарамі мерапрыемстваў выступілі: упраўленне ідэалагічнай работы аблвыканкама, Гродзенская абласная навуковая бібліятэка імя Я. Ф. Карскага і Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Я. Купалы. У «Доміку Элізы Ажэшкі» адбылося пасяджэнне літаратурна-музычнага салона «У пані Элізы» на тэму «Ціхая справа міласэрнасці». Гаворка ішла пра дабрачынную дзейнасць нашай слыннай зямлячкі. Таксама ў абласной бібліятэцы адкрылася выстаўка «Гродна і гарадзенцы часоў Элізы Ажэшкі», на якой прадстаўлены прадметы з прыватных калекцый Аляксандра Сявенкі, Алеся Госцева і Януша Паруліса. Тут можна ўбачыць прыжыццёвыя кнігі Элізы Ажэшкі, асобнікі за розныя гады выданняў «Kłosy» і «Tygodniki lustrowany», у якіх друкавалася пісьменніца. Асноўную ж частку экспазіцыі складаюць фотаздымкі Гродна і гарадзенцаў часоў Элізы Ажэшкі, якія размешчаны ў раздзелах «Святы ў жыцці гарадзенцаў», «Модаэпохі Ажэшкі», «Паўсядзённасць у жыцці гарадзенцаў» і інш.

* * *

Абанементны аддзел Магілёўскай абласной бібліятэкі імя У. І. Леніна падрыхтаваў выстаўку, на якой прадстаўлены кнігі-юбіляры, што ўвайшлі ў залаты фонд сусветнай мастацкай літаратуры: «Изборник» — 940 гадоў, Дж. Бакачыа «Дэкамерон» — 660 гадоў, Дж. Осцін «Нартэнгерская абацтва» — 215, А. Бальзак «Згубленыя ілюзіі» — 170 гадоў і іншыя. Выстаўка будзе дзейнічаць на працягу года. Акрамя таго, у 2013-м Магілёўская абласная бібліятэка падрыхтавала яшчэ адзін сюрпрыз: час абслугоўвання чытачоў павялічыўся на гадзіну. Цяпер установа працуе з 9 раніцы да 20 гадзін вечара.

* * *

У Барысаўскай цэнтральнай раённай бібліятэцы імя І. Х. Каладзеева экспануецца выстаўка работ прызёраў раённага конкурсу «Зялёны вітамін-2012» (арганізатар — Барысаўскі экалагічны цэнтр). Конкурс праходзіў у наступных намінацыях: лепшы адукацыйны плакат, лепшы малюнак на тэму «Вясковыя матывы», лепшы літаратурны твор на тэму «Свята ўраджаю "Багатыр"», лепшае мерапрыемства па прафарыентацыі «Будучыня за намі!». У конкурсе ўзялі ўдзел вучні і педагогі больш як 40 устаноў агульнай сярэдняй адукацыі раёна.

# Каляды ў Парыжы

**Чароўная лірычная атмасфера Парыжа і ўзрушаны святочны настрой панавалі зімовым вечарам у Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Рамантычны флёр французскай сталіцы ў час самага светлага хрысціянскага свята паспрабавалі перадаць аўтары і ўдзельнікі музычна-паэтычнай імпрэзы «Каляды ў Парыжы».**

**Вольга ДОЎГАЯ,
фота з асабістага архіва Лідзіі Кузьміцкай**

Ідэя каляднага канцэрта з твораў французскіх кампазітараў узнікла ў канцэртмайстра Алены Аляксеевай, выкладчыцы БДАМ. Да ўдзелу яна запрасіла сваіх студэнтаў, будучых канцэртмайстраў, а таксама прафесійных артыстаў, якія выканалі надзвычай цікавыя музычныя творы Шарля-Мары Відора, Клода Дэбюсі, Дарыюса Міё, Франсіса Пуленка, Марыса Равеля, Каміла Сен-Санса і Эрнеста Шасона.

У праграму вечара ўвайшлі як інструментальныя, так і вакальныя творы. Маленькія музычныя замалёўкі з жыцця сталіцы кахання былі падабраны з вялікай любоўю і дапаўняліся спецыяльным відэашэрагам. А паэтычнае слова гучала не толькі ў спевах, але і з вуснаў тых, хто звычайна выконвае маўклівую ролю: у гэты святочны вечар «абавязкі» канферансье ўзялі на сябе канцэртмайстры. Чароўная лірыка пра калядны Парыж аўтарства амаль не вядомых шырокай публіцы паэтаў стала дзівосным аздабленнем канцэртнай праграмы і стварыла настрой, у якім незвычайным чынам спалучыліся лёгкая шчымлівая журба і хвалюючае прадчуванне святочных цудаў.





Сапраўды зорным канцэрт «Каляды ў Парыжы» атрымаўся для яго салісткі — артысткі Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра, лаўрэата міжнароднага конкурсу Лідзіі Кузьміцкай (сапрана). Спявачку адрозніваюць вытанчаны «парыжскі» стыль, вакальныя творы знакамітых французаў яна выконвае з уласцівымі ёй артыстызмам і музыкальнасцю. Л. Кузьміцкая — артыстка з выдатным мастацкім густам і, што яшчэ важней, схільная да творчых сумненняў і прыдзірлівага аналізу сваёй працы. На жаль, апошнім часам родны тэатр прапануе ёй не вельмі шмат годных магчымасцей для раскрыцця патэнцыялу (выключэннем можа стаць толькі партыя Неды ў оперы «Паяцы» Р. Леанкавала, якую спявачка выканала восенню мінулага года), аднак артыстка імкнецца запоўніць гэты прабел канцэртнымі выступленнямі на іншых пляцоўках. Шматгадовы творчы тандэм Лідзіі Кузьміцкай з піяністкай Аленай Аляксеевай падарыў гледачам некалькі адметных камерных канцэртаў-спектакляў пераважна на сцэне Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Напрыклад, мінулай зімой яны прадставілі тэатралізаваную музычную праграму з твораў Моцарта, і можна спадзявацца, што гэты саюз канцэртмайстра і спявачкі здольны стварыць яшчэ не адно свята для аматараў мастацтва. Канцэртная праграма «Каляды ў Парыжы» паказала, што цікавых задумак і сіл для іх увасаблення артысткам не займаць.

# Жывапіс 3D

**Мастацкая галерэя «Vilnius» да 5 лютага прадстаўляе першую персанальную выстаўку Віталя Балыкіна «Вогненная рапсодыя».**

**Дзіяна КАРОЛЬ,
фота аўтара**

Экспазіцыя выстаўкі складаецца з 40 твораў, выкананых у тэхніцы піраграфіі (выпальвання па тканіне). Піраграфія стала папулярнай у віктарыянскую эпоху і эпоху Арт Дэко. Цяпер яна перажывае новую хвалю папулярнасці і аднаўлення. Камбінацыя тэкстуры і малюнка дазваляе ствараць карціны, якія выглядаюць настолькі рэалістычна, што наведвальнікі выстаўкі ў водгуках называюць такую працу «жывапіс 3D». Акрамя работ, створаных па ўласных эскізах, аўтар прадставіў гледачу пейзажы па матывах твораў класікаў жывапісу.



*«Сустрэча».*

Віталь Балыкін нарадзіўся ў 1936 годзе ў Саратаве, атрымаў вышэйшую адукацыю ў Ваеннай артылерыйскай акадэміі імя М. Калініна ў Ленінградзе, усё жыццё прысвяціў службе і навучанню курсантаў Мінскага вышэйшага ваенна-палітычнага агульнавайсковага вучылішча. Наведванне ў 2006 годзе выстаўкі «Жывапіс агнём» народных умельцаў клуба «Увасабленне мары» дало аўтару штуршок да засваення зусім новага віду дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Азам яго навучылі майстры А. Мікалуцкая і А. Максімовіч, паступова знайшоў свой спосаб «малявання агнём», асабліва гэта датычыць тэхнікі выяўлення неба.

— У мяне заўсёды было шмат інтарэсаў у галіне дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, хаця больш за ўсё, як і раней, цягне да малюнка і жывапісу. У свой час я засвоіў чаканку па метале, разьбу па дрэве, вытворчасць дробных вырабаў з каранёў і сучкоў, пляценне з бяросты, лазы і інш. Наведванне мастацкай студыі, клуба «Прырода і фантазія», абмен досведам з майстрамі прыкладнога мастацтва, удзел у выстаўках заўсёды раскрываюць усё новыя і новыя грані жыцця, прымушаюць задумвацца над цёмнымі і светлымі яго бакамі, радавацца і сумаваць, бачыць значнае і прыгожае ў звычайных рэчах і атрымліваць ад гэтага асалоду. Работа добра ідзе, калі прыходзіць натхненне і ты ў думках ужо бачыш будучую карціну і гатовы перанесці яе на тканіну. Але да гэтага трэба выканаць папярэднія замалёўкі алоўкам альбо акварэллю, і толькі пасля таго, як малюнак добра прадуманы і падрыхтаваны, можна брацца за тканіну, — зазначае Віталь Балыкін.

Мастак можа смела сказаць, што стварыў сваю школу піраграфіі, ён мае вялікую колькасць вучняў і паслядоўнікаў. Наогул, на сёння ў Беларусі больш няма майстроў піраграфіі такога ўзроўню.

# Парк зімою. Вас тут чакаюць

**Святлана ДЗЯНІСАВА**

— Дрэннага надвор'я не бывае, — сцвярджае начальнік аддзела культурна-масавай і спартыўнай работы УП «Гарадскія паркі Мінскзеленбуда» Лідзія Вежнавец. Завіруха, напрыклад, — чым не нагода адчуць сябе героем казкі? І ўвогуле, дарэмна людзі думаюць, што зімою паркі спяць. Яны... чаруюць.

— У нас усю зіму адбываюцца мерапрыемствы і рыхтуюцца праекты на новы летні сезон. Да таго ж, на тэрыторыі парку круглы год займаюцца творчасцю — як дзеці, так і дарослыя.

Такім чынам, уяўленне пра тое, быццам бы зімой жыццё ў парку заціхае, няправільнае. Дзявяты год запар у дзіцячы парк Горкага са спецыяльным працоўным візітам наведваецца Дзядуля Мароз — для таго, каб дапамагчы белавежскаму Дзеду павіншаваць як мага больш дзетак, у прыватнасці, маленькіх мінчан. І кожны год супрацоўнікі парку імкнуцца прыдумаць пад гэту «марку» нешта новенькае.

— Каб маленькі госць, які прыходзіць да нас штогод, кожны раз сустракаўся з асаблівым і непаўторным, — тлумачыць Лідзія Георгіеўна.

Так, сярод наведвальнікаў зімовага парку ёсць дзеці, якія прыходзяць да Дзядулі Мароза 6 — 7 гадоў запар. Тое, што дзяцей на працягу стольких гадоў не пакідае жаданне трапляць у навагоднюю казку, безумоўна, з'яўляецца сведчаннем знака якасці. Зрэшты...

— Мы нават не столькі дзецям удзячны за тое, што яны да нас прыходзяць, колькі іх бацькам. Ёсць, ведаеце, такія таты і мамы, бабулі і дзядулі, якім, дзякуй Богу, цікава праяўляць у дачыненні да нас сваю актыўнасць. Яны проста прыходзяць і гавораць: «Давайце зробім так». З іх боку, натуральна ж, лепш бачна, чым нам, супрацоўнікам, якія рыхтуюць паслугу і ставяцца да яе як арганізатары, а не як спажыўцы.

Не трэба, што самае каштоўнае, стаяць у чарзе, чакаць свайго часу «прыёму» і думаць: трапіш ты да таго казачнага Дзядулі ці не трапіш? Калі ўжо напісаны ліст, і не проста ліст, а пасланне, калі падрыхтаваны падарунак — у выглядзе хаця б верша ці песенькі — і Дзядуля даслаў запрашэнне, то, вядома ж, ён рыхтуе табе падарунак і прыме цябе ў сваім казачным дамку. Абавязкова.



— Нават калі дзіця захварэла, мы не адмаўляемся ад свята для іх і проста пераносім віншаванне. І калі маленькі госць па нейкай прычыне спазняецца, Дзядуля Мароз гатовы яго чакаць. Таму што гэта святая справа, — гаворыць Лідзія Вежнавец. — Пакуль ёсць вера ў цуд, ён існуе. Мы і самі, дарослыя, здавалася б, людзі, адчуваем, што недзе з 20 снежня па 7 студзеня цуды здараюцца на самай справе. Трэба толькі ў гэта паверыць.

У гэтым годзе ў Дзядулі Мароза здарылася адкрыццё: ён зразумеў, што дзеці — гэта і дарослыя таксама. Якія б сталыя яны ні былі, а ўсё роўна — дзеці: ім таксама хочацца, каб іх павіншавалі. А пад вечар, калі час візітаў падыходзіць да заканчэння, стары збірае ў мех новыя падарункі і... пакідае свой дамок — каб павіншаваць тых, хто не зможа да яго прыехаць. Прыход Дзядулі Мароза да дзяцей-сірот і інвалідаў — гэта таксама традыцыя. Вось такі ён, парк зімою.

— Няважна, у якую пару і з якім настроем вы сюды трапляеце, — заўважае напрыканцы размовы Лідзія Георгіеўна. — Бо нават проста сесці на лавачку, паглядзець на жвавых вавёрак, паслухаць дзятлаў — гэта ўжо здзейснены цуд. Ці паглядзець на ліст, які шапаціць спецыяльна для вас і акурат для вас стварае цень... Вас тут чакаюць — гэта галоўнае.

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Выдавецкі дом "Звязда"**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага
рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Выдавецкі дом "Звязда".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Выдавецкі дом "Звязда".
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
"Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3000 рублёў
Наклад — 2698
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 10.01.2013 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 41
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686